Леў Гарошка

## САВЕЦКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ПАЛІТЫКА ПАСЬЛЯ 1942 ГОДУ

### І. Пераломны 1942 год

Рэлігійная палітыка да Другой Сьветавай Вайны

Як толькі бальшавікі ўладу ў свае рукі на абшары Савецкага Саюзу, адразу павялі бескампрамісовае змаганьне з усімі веравызнаньнямі. абвяшчаючы бязь ніякіх двузначнасьцяў, што маюць на мэце поўнае зьнішчэньне рэлігіі на ўсім абшары свае ўлады. Бязбожнасьць была на толькі характэрнаю азнакаю для бальшавізму, што гэтыя два паняцьці нараз атоесамліваліся. Толькі ў 1925 г. была створаная спэцыяльная арганізацыя Саюзу ваюючых бязбожнікаў. Аднак да кампэтэнцыі гэтае арганізацыі належала толькі бязбожная прапаганда, тады як усе адміністратыўныя супрацьрэлігійныя мерапрыемствы і далей вяліся савецкім дзяржаўным апаратам.

Уласьціва Саюз ваюючых бязбожнікаў быў найбольш вымоўным публічным выявам намераў савецкае ўлады адносна рэлігіі, бо-ж усю дзейнасьць гэтае арганізацыі фінансавала дзяржава. А кошты супрацьрэлігійнае прапаганды мусілі быць немалыя: выдаваліся шматлікія кнігі, брашуры; зьяўляліся бязбожныя газэты і часапісы. Праграму свае дзейнасьці ваюючыя бязбожнікі прынараўлялі да эканамічных савецкіх плянаў. Адначасна з сталінскімі пяцігодкамі абвяшчаліся бязбожныя пяцігодкі: першая ў 1927 г. і другая ў 1932 г. Першая зь іх праводзілася больш ціха, а другая з гучнаю прапагандаю і ў сваім канцовым пункце праграмы намячала на 1937 г., што ў тым часе на абшары СССР мусіць быць зьнішчана навет імя Бога. Але пяцігодка кончылася правалам. Перапіс насельніцтва СССР у 1937 годзе выявіў такі неспадзевана вялікі лік веруючых у Бога, што вынікі перапісу ніколі ня

былі апублікаванымі.

Аднак няўдачы бязбожнае акцыі не зьнеахвочвалі бязбожнікаў ад іхняе руйнацкае дзейнасьці. Яны мянялі тактыку, намячалі новыя пляны і мабілізавалі кадры актывістых для іх ажыцьцяўленьня. Свае няўдачы ў прапагандзе ваюючыя бязбожнікі стараліся ўзнагародзіць насельствам і крывадушнымі подступамі адносна рэлігійных згуртаваньняў. Гэта ўсё падзеі, якія ў свой час знайходзілі шырокае рэха на бачынах вольнае прэсы, дык іх няма патрэбы тут паўтараць. Толькі для зразуменьня далейшых падзеяў і для ясьнейшага ўяўленьня тае зьмены, якая сталася ў тактыцы бальшавікоў пасьля 1942 г., неабходна прыпомніць, што ў СССР уся маемасьць усіх веравызнаньняў была сканфіскованая, а царкоўныя будынкі дазвалялася ўжываць для культу толькі на аснове кантракту з адпаведнымі савецкімі ўстановамі і пры тым неабходна было плаціць страшэнна вялікія падаткі; званеньне было забаронена, усе рэлігійныя арганізацыі разьвязаны, навучальныя ўстановы для духавенства пазачыняныя, манастыры зьліквідаваныя, навучаньне рэлігіі забаронена ня толькі ў школах, але навет і дома для дзяцей ніжэй 18 гадоў, для арганізацыі парахвіі вымагаліся адпаведныя заявы ад вернікаў колькасьцю найменш 20 чалавек і гэтай - "двацатцы" перадавалася па кантракту царква ці іншы будынак для культу, аднак і "двацатка", адзіная рэлігійная арганізацыя, якая была дазволена савецкім правадаўствам, ня мела права юрыдычнае асобы.

Усе гэтыя і іншыя мерапрыемствы бальшавікоў прычыніліся да таго, што на пачатку 1939 г. на абшары СССР было дзейных толькі 4 праваслаўных ерархаў /не рахуючы абнаўленцаў - гэтых было 11/, а каталіцкага ніводнага. Арганізацыя сэктанцкіх грамадаў была даведзена да поўнага разладу. Магамэтане, юдзі і іншыя веравызнаньні так-жа знайходзіліся перад абліччам руіны.

Калі-ж у 1941 г. ваенныя падзеі ахапілі СССР і фронт хуткімі тэмпамі набліжаўся да Масквы, бальшавіцкая ўлада раптам так захісталася, што бальшавіцкіх верхаводаў ахапіла паніка. У гэткім становішчы дачыненьні бальшавікоў да рэлігіі раптам зьмяніліся да непазнаньня. Газэты і радыё на ўсім сьвеце, побач ваенных падзеяў, падавалі сэнсацыйныя весткі аб новай бальшавіцкай рэлігійнай палітыцы.

Бязбожныя часапісы й кнігі перасталі выходзіць у СССР ад чэрвеня 1941 г. "дзеля нястачы паперы". Саюз ваюючых бязбожнікаў быў разьвязаны ў 1942 г. з такім імпэтам, што ягоны старшыня Ем. Яраслаўскі раптам памёр. Друкарня, дзе раней друкавалася бязбожная літаратура, была перададзеная Маскоўскай Праваслаўнай Патрыярхіі і там ад верасьня 1943 г. пачаў друкавацца, спынены ў 1936 г., "Журнал Московской Патриархии". Зьявіліся царкоўныя календары і яшчэ пару кніжак, праўда, прапагандовага зьместу. Лік ерархаў і сьвятароў Расейскае Праваслаўнае Царквы раптам пачаў узрастаць. Пачалі адчыняцца, зачыненыя калісь гвалтам, праваслаўныя цэрквы. Аб зьменах на лепшае што да іншых веравызнаньняў вестак было мала, што да каталіцызму – ніякіх.

Новая рэлігійная палітыка

Запраўды ў Савецкім Саюзе ў 1942 г. дзеялася штосьці нячуванае да гэтага часу. На месца калішняе Культ-Камісіі, якая існавала ад 1931 г. як асобны адзьдзел НКВД, у 1942 г. утворана Савет па справах Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Савеце Міністраў /калісь камісараў/ Саюзу СССР на чале з Г.Г. Карпавам і толькі два гады пазьней утворана Савет па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР на чале з І. Палянскім. Ранейшыя абмежаваньні ў выконваньні культу быццам перасталі існаваць. На цэрквах зьявіліся званы, сьвятары пачалі гаварыць казаньні, праўда, пераважна патрыятычнага зьместу. Асабліва вялікую сэнсацыю выклікала ў сьвеце вестка, што 4 верасьня 1943 г. Сталін прыняў на прыватнай аўдыенцыі местадзяржыцеля патрыяршага пасаду мітр. Сяргея /Старагодзкага/ разам зь мітр. Аляксеям /Сіманскім/ і мітр. Мікалаем /Ярушэвічам/, а 8-га верасьня таго-ж году адбыўся ў Маскве Сабор, на якім мітр. Сяргей быў выбраны Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі.

Правамоцнасьць таго "Сабору" стаіць пад вялікім знакам запытаньня, бо герархія Расейскае Царквы даволі шматлікая і акрамя прадстаўнікоў у самой Расеі мае нямала архірэяў на эміграцыі, а між тым у часе "Сабору" было прысутных толькі 19 аднадумнікаў мітр. Сяргея, калі ў тым-жа часе больш дзесятка архірэяў знаходзілася ў турмах і ссылках[1].

Пасьля сканчэньня вайны бальшавікі прадаўжалі свой новы

курс рэлігійнае палітыкі і характэрна, што асабліва інтэнсыўна прадаўжалі шырака рэклямаваць свае быццам дабрадзейныя дачыненьні да рэлігіі. Уласьціва ад гэтага і распачалася іхняя так званая новая тактыка. Напрыклад, першая кніжка ў справах рэлігіі ў сувязі з новым курсам, якая была апублікаваная ў Маскве ў 1942 г. "Правда о религии в России", у самым СССР была парасыланая толькі ў большыя кнігарні, а ўвесь наклад быў прызначаны заграніцу[2]. Пры тым хутка паявіліся яе выданьні на францускай, ангельскай і швэдзкай мовах[3].

Жыцьцё ў Савецкім Саюзе заўсёды было замкнёнае для чужога вока, а ў часе вайны дык зялезная заслона сталася тымбольш непранікальнай, дзеля гэтага спраўджваць факты, якія падавала аб сваім жыцьці савецкая прапаганда, было амаль немагчыма, дык ня дзіва, што ў такіх абставінах бальшавіцкая прапаганда аб "зьмене" рэлігійнае палітыкі мела немалы посьпех у вольным сьвеце. Было нямала людзей, якія шчыра паверылі ў запраўдную зьмену на лепшае і сымпатызавалі бальшавіком.

Аб тым, што нейкія зьмены запраўды сталіся ў бальшавіцкай рэлігійнай палітыцы, няма сумлеву. Аб гэтым нядвузначна сьветчаць хоць-бы вышэйпералічаныя факты, а ў далейшым іх яшчэ ўбачым больш, але ці яны маюць сьветчыць аб зьмене на лепшае становішча бальшавікоў што да рэлігіі як такое? На гэтае пытаньне нельга адказаць патакуючча, але простае запярэчаньне ня было-б так-жа належным адказам. Не дарма ў вольным сьвеце ўважна сочаць за ўсімі падзеямі рэлігійнага характару ў СССР, там справа рэлігіі набірае спэцыяльнага аспэкту.

## II. Праўнае палажэньне рэлігіі ў СССР

Даўнейшае савецкае законадаўства адносна рэлігіі

Найлепшым выявам запраўдных дачыненьняў савецкае ўлады да рэлігіі ёсьць савецкае законадаўства. І вось тут прыходзіцца сьцьвердзіць факт, што пасьля 1942 г., не зважаючы на шырокарэклямаваную зьмену рэлігійнае палітыкі на лепшае, усё калішняе савецкае супрацьрэлігійнае законадаўства асталося бязь зьмены. Адзіна толькі Расейская Праваслаўная Царква прыняла ў 1945 г. новы статут, які быццам рэспэктуе так-жа савецкая ўлада, бо як

будзем зараз бачыць, ён уложаны адпаведна да савецкага заканадаўства.

Савецкае супрацьрэлігійнае заканадаўства даволі багатае. Пачынаючы ад 1918 г. зьявілася нямала розных дэкрэтаў, распараджэньняў, пастановаў і абежнікаў у справах рэлігіі, ці, лепш кажучы, супраць рэлігіі. Важнейшыя зь іх, абавязуючыя як законы, былі выданы асобнаю кнігаю ў 1926 г.[4], але пасьля таго ў наступных гадох зьявіліся яшчэ новыя законы. Лішнім было-б тут пералічаць усё гэтае аграмаднае сьпляценьне праўных кручкоў, якое мела на мэце спаралізаваць да канца дзейнасьць веравызнавальных групаў, але таму, што да гэтага часу ня было ніякае пастановы аб іхным уневажненьні і тым самым яны да гэтага часу астаюцца ў сіле, дык неабходна зьвярнуць увагу прынамся на больш характэрныя зь іх, аб якіх успамінаецца ў савецкай прапагандзнай літаратуры[5].

У СССР і далей абавязваюць аснаўныя лініі закону з 1918 г. аб аддзяленьні Царквы ад дзяржавы, і далей астаюцца ў сіле некалькі разоў паўторваныя /1918, 1929, 1931 гадох/ пастановы, што - "рэлігійныя згуртаваньні не зьяўляюцца юрыдычнымі асобамі і дзеля гэтага ня маюць права на собскасьць". І далей астаецца ў сіле закон з 1929 г., які рэлігійным згуртаваньням забараняе ўсякую дабрадзейную акцыю. Славуты 124 параграф савецкае канстытуцыі, які вернікам дазваляе толькі выконваньне культу, а бязбожнікам вядзеньне ўсякае антырэлігійнае прапаганды, такжа ні ў чым ня зьменены. І навет абмежаваньні ў выконваньні культу астаюцца ў сіле, бо на рэлігійныя працэсіі неабходна мець дазвол ад мясцовых уладаў. І карны савецкі кодэкс ня зьменены: Гл. 4б. 122 пагражае за навучаньне рэлігіі моладзі караю турмы да 1 году і больш. Спосаб рэгістрацыі парахвіяў астаецца такі, які быў устаноўлены ў 1928 г., і інш.

Новы праўны стан

Калі савецкае заканадаўства ў матэрыі рэлігіі ня ў чым афіцыяльна не зьмянілася пасьля 1942 г., дык затое зьмяніўся праўны статут Расейскае Праваслаўнае Царквы. Перш яна кіравалася статутам, які быў прыняты на Ўсерасейскім Саборы ў Маскве ў 1917 г. але ад 1927 г. яго ўжо Маскоўская Патрыярхія ня прытрымлівалася, хоць афіцы-

яльна ён яе абавязваў. 31-га студзеня 1945 г. на "Саборы" ў Маскве быў прыняты новы статут, які істотна розьніцца ад папярэдняга статуту, поўнасьцю прыстасоўваючыся да савецкага заканадаўства. Новы статут прызнае, што парахвія можа быць зарэгістраваная толькі там, дзе на гэта згодзіцца /зарэгіструе/ савецкая ўлада /§37/. Цяпер Расейская Царква быццам узаконівае канфіскату ўсіх сваіх маемасьцяў, прызнаючы неабходнасьць рабіць кантракт зь мясцовымі ўладамі "на дармовае карыстаньне царкоўнага будынку і культавых прыладаў і пасудзьдзя"./§39/. Адносна адміністратыўнага апарату ў парахвіях і епархіях новы статут перапісаў амаль бязь зьменаў савецкія ранейшыя пастановы. Асабліва характэрны з гэтага гледзішча §46, у якім гаворыцца, што ў выпадку якіх-небудзь непаладкаў у парахвіяльнай адміністрацыі, парах забавязаны неадкладна аб гэтым данесьці япіскапу, а япіскап савецкай уладзе праз Савет па справах Расейскае Праваслаўнае Царквы.

Новы статут узаконьвае поўную залежнасьць Расейскае Царквы ад савецкае ўлады, а правячых япіскапаў яшчэ дадаткова ўзалежнівае ад парахвіяльных камітэтаў т.зв. дваццаткаў, у якія мясцовыя камуністычныя актывістыя могуць лёгка правесьці сваіх людзей.

Таму што аб новым статуце з 1945 г. ужо зьявілася нямала публікацыяў, дык ня будзем тут паўтараць ужо няраз апублікаванага, але неабходна зазначыць, што навет у найбольш дакладных аналізах новага статуту, якія да гэтага часу былі зробленыя, у працах а.Швайгля[6] можна ўбачыць сумны абраз праўнага становішча Царквы ў СССР, але ў запраўднасьці гэта яшчэ ня поўны абраз, бо новы статут з 1945 г. ня зусім выяўляе тую залежнасьць Расейскае Царквы і яе ерархіі, якая там заіснавала ад 1927 г. Пайменна ў тым годзе мітр. Сяргей пасьля публікацыі свае славутае прасавецкае дэкларацыі загадаў падуладнаму духавенству ўказам з 21.X.1927 г. памінаць савецкую ўладу на багаслужэньнях і забараніў памінаць ссыльных і арыштаваных ерархаў. Тады-ж ён адчыніў сынадальную канцылярыю для ГПУ і такі стан трывае да сяньня.

Падчас розных імпрэзаў, якія да гэтага часу ладзіла Расейская Праваслаўная Царква, на старонках "Журн. Моск. Патр." час-

та ўспаміналася імёны розных урадоўцаў з Савету па справах Расейскае Прав. Царквы, няраз так-жа ўспаміналіся імёны ўпаўнаважаных гэтага Савету для паасобных рэспублікаў і вобласьцяў. Вось-жа гэта яны ёсьць фактычнымі кіраўнікамі царкоўнае і пазацаркоўнае дзейнасьці сучасных ерархаў і адначасна яны сочаць за кажным крокам даручаных сабе ерархаў. Такія ўпаўнаважаныя ёсьць усюды, дзе ёсьць правячыя архірэі. Наглядна гэтую залежнасьць Царквы ад савецкае ўлады прадстаўляе графічная схэма ў залучніку №1.

Вышэй успаміналася слова "залежнасьць" для азначэньня праўнага становішча Расейскае Царквы ў дачыненьні да савецкае ўлады, але, нажаль, гэтае слова далёка ня выстарчае для азначэньня запраўднага становішча, бо ўжо ад 1927 г. Расейская Царква, праўда ня ўся, а толькі так званага Сергіянскага кірунку, пайшла на шлях супрацоўніцтва з савецкаю ўладаю. У 1931 г. адзін зь дзейных расейскіх сьвятароў, былы салавецкі вязень, пісаў:

> "З усіх хоць крыху мне ведамых гарадоў поўначы і паўдня Расеі, ня ведаю ніводнага, дзе-б ня было бацюшкі, свайго чалавека для ГПУ. Роля іх амаль ува ўсіх на вачох: навет у вёсках шматлікія бацюшкі не ўцяклі ад гэткае ролі"[7].

Раз увёўшы сыстэму супрацоўніцтва, бальшавікі яе яшчэ ўдасканалілі ў далейшым. Не дарма пасьля вайны 22 архірэяў і 253 сьвятароў атрымалі розныя савецкія мэдалі за сваю "патрыятычную дзейнасьць"[8].

Зразумела так-жа, што ніякі статут ня выказвае, якім спосабам дасягваецца супрацоўніцтва духавенства з савецкаю ўладаю. Агульна ведама, што да 1927 г. і яшчэ некалькі гадоў пасьля сярод расейскіх ерархаў і духавенства шмат было такіх, што жыцьцём заплацілі за вернасьць сваім сьвятарскім абавязкам[9], дык няма сумлеву, што бальшыня духавенства, якая згадзілася на супрацоўніцтва, зрабіла гэта пад прымусам. Тэхніка савецкага ангажаваньня ў супрацоўнікі вельмі розная і заўсёды ахутаная таямнічасьцю, але ў 1940 г. здарылася некалькі выпадкаў, якія выявілі найчасьцей практыкаваныя мэтады ў вангажоўцы. Тады бальшавікі рабілі спробы накінуць супрацоўніцтва навет каталіцкім сьвятаром, але ўсе яны кончыліся для бальшавікоў няўдачна.

## III. Упрывілеяванае палажэньне Маскоўскага Патрыярхату

Дачыненьні савецкае ўлады да Маскоўскага Патрыярхату перад 1942 г.

Зьмены, якія сталіся ў бальшавіцкай рэлігійнай палітыцы пасьля 1942 г., ня ёсьць зьменамі ў справе рэлігіі наагул і ў дачыненьні да ўсіх веравызнаньняў, але перадусім у дачыненьні да Расейскае Праваслаўнае Царквы і, дакладна кажучы - да Маскоўскага Патрыярхату. Праўда, бальшавікі заўсёды пазнаму адносіліся да розных веравызнаньняў. У тэорыі яны абвяшчалі, што маюць на мэце зьнішчыць усякую рэлігію, але ў практыцы найбольш зойстра накідаліся на тыя веравызнаньні, якія найбольш супярэчылі іхным плянам, і фаварызавалі тыя, якія ім маглі быць у чымсьці памоцнымі. З гэтага апошняга гледзішча Маскоўская Патрыярхія ў бальшавіцкіх плянах відавочна мае асаблівае значэньне, бо сваім упрывілеяваным становішчам вырозьніваецца ня толькі ад неправаслаўных веравызнаньняў, але навет сярод іншых праваслаўных цэркваў, якія былі на абшары СССР, але якія былі зьнішчаныя бальшавікамі. І так у 1925-27 гадох бальшавікі зьнішчылі герархаў і сьвятароў Беларускае Праваслаўнае Мітраполіі[10], у 1927 - 30 гадох былі зьліквідаваныя герархі Украінскае Аўтакефальнае Царквы[11]. У гэтым-жа часе паліквідаваны і тыя групы расейскіх праваслаўных герархаў, якія тварылі асобныя плыні ў Расейскай Праваслаўнай Царкве, катэгарычна адмаўляючыся прызнаваць прасавецкага мітр. Сяргея местадзяржыцеля пасаду Маскоўскага Патрыярха. Гэта былі т.зв. Іосіфляне, ліквідаваныя паволі да 1942 году, і Грыгорыяне - невялікая група зьліквідаваная у 1927 г. Аднак таму, што да 1942 г. для рэлігіі і для духавенства пакідалі вельмі і вельмі мала поля дзеяньня, незакрытымі аставаліся толькі лічаныя сьвятыні, дык і прывілеі Маскоўскае Патрыярхіі асабліва ня вырозьніваліся.

Калі-ж у 1942 г. бальшавікі зьмянілі лінію ў сваёй рэлігійнай палітыцы, дастасоўваючи яе спэцыяльна да Маскоўскае Патрыярхіі, тады ўпрывілеяванае становішча гэтае апошняе сталася аж надта відавочным. На бачынах "Известий" пачалі друкавацца "пастырскія" лісты патрыярха; для вядзеньня справаў Патрыярхіі створана ў 1942 г. быццам асобнае міністэрства - гэта ўжо ўспамінаны перш Савет па справах Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Са-

веце Міністраў Саюзу ССР; дазволена выдаваць "Журнал Московской Патриархии" і для Патрыярхіі перадана цэлую друкарню; дазволена аднавіць Патрыярхат і з гэтаю мэтаю ў Маскве адбыліся гучныя "Саборы" з удзелам прадстаўнікоў некаторых Праваслаўных Цэркваў з заграніцы, пры тым падарожжа дэлегатаў фінансавала савецкая ўлада; дазволена адкрыць аж 8 Духоўных Сэмінарыяў і 2 Духоўныя Акадэміі, зь іншых цэркваў: Грузінская і Армянская атрымалі дазвол адкрыць па аднэй Духоўнай Сэмінарыі, быў адчынены адзін магомэтанскі мэдрэш і талеруецца адна Каталіцкая Духоўная Сэмінарыя ў Коўне. Праўда, лік вернікаў Праваслаўнае Царквы ў СССР параўнаўча найбольшы - да 1917 г. яны складалі 65% усяго насельніцтва, але ў даным выпадку, апрача колькасьці, яшчэ шматлікія іншыя матывы абумовілі ўпрывілеяванае становішча Маскоўскае Патрыярхіі. Аб іх будзе гутарка потым у разьдзеле аб забавязаньнях Расейскае Царквы. Тут успомнім толькі, што ў часе вайны бальшавіком была патрэбная такая царква, якая-б, ня вымагаючы зьмены бязбожнае палітыкі, сталася для бальшавікоў карысным дэкоратыўным сродкам для іхняе нутранае і вонкавае палітыкі, узьняла-б захістаны прэсьціж савецкае ўлады ў вачох вернікаў. Такою магла быць толькі Маскоўская Патрыярхія, якая да гэтага часу на працягу стагодзьдзяў была на паслугах расейскае царскае ўлады.

**Ліквідацыя абнаўленцаў**

Гаворачы аб сучасным упрывілеяваным становішчы Маскоўскае Патрыярхіі, нельга ня ўспомніць, што ў 1922 г. бальшавікі былі стварылі зь герархаў і сьвятароў вельмі левых асьпірацыяў так званую Абнаўленчую Царкву. Быў час, што яна мела больш герархаў, як патрыяршая Царква, але потым перажыўшы нутраны падзел і паяднаньне па загаду бальшавікоў, яна моцна зьменшылася. Некалькі сьвятароў гэтае "царквы" зусім выракліся хрысьціянства /Н.Платонаў у сане мітрапаліта, С. Каліноўскі/. Ніводнага герарха гэтае групы бальшавікі не арыштавалі. І вось гэтая, створаная і падтрымоўваная бальшавікамі "царква", ад восені 1943 г. пачала раптам самаліквідавацца на карысьць патрыяршае Царквы.

За кароткі час, усе абнаўленчыя "герархі" і "сьвятары" перайшлі да Маскоўскае Патрыярхіі, выконваючы пры гэтым усе, пры-

пісаныя для такіх пераходаў, пакаянныя прыпісы. Прынялі "герархаў" у тых санах, якія яны мелі да паўстаньня абнаўленства: з 11 архірэяў толькі трох прынята ў сане япіскапаў /Віталі Введенскі, Карнілі Папоў, Міхаіл Постнікаў/, а Сяргей Ларын быў перахіратанізаваны.

Бязумоўна гэта адзін з фактаў, які ясна выяўляе, куды савецкая ўлада перанесла сваё выключнае падтрыманьне, а з другога боку гэта адначасна сьветчыць, што абнаўленства, падобна як Саюз ваюючых бязбожнікаў, бальшавікі залічылі да няўдалых экспэрымэнтаў.

Патрыярх У Царкве, як герархічнай установе, становішча патрыярха вельмі важнае і адказнае, асабліва ў тых абставінах, якія заіснавалі ў Савецкім Саюзе. Правы Маскоўскага Патрыярха ў новым статуце, зацьверджаным 31.1.1945 г. на саборы ў Маскве, азначаны даволі агульна ў першых адзінаццацёх параграфах. У першым параграфе кажацца, што Расейскую Праваслаўную Царкву ачольвае Маскоўскі Патрыярх, які кіруе ёю сумесна зь Сьвяцейшым Сынодам. Гэта значыць, што ў тэорыі правы патрыярха абмежаваныя Сьвяцейшым Сынодам, але ў практыцы яны маюць такі шырокі абсяг, што абмежаваныя толькі савецкаю ўладаю. Гэтае абмежаваньне афіцыяльна прызнаецца ў статуце. У §7 гаворыцца, што патрыярх можа склікаць сабор толькі "з дазволу дзяржаўнае ўлады".

Уся ініцыятыва ў кіраўніцтве, паколькі агулам можна гаварыць аб ініцыятыве ў савецкіх умовах, належыць патрыярху, дзеля гэтага асоба патрыярха мае першараднае значэньне для Царквы.

Сучасны патрыярх Аляксей /Сіманскі/ паходзіць з арыстакратычнай сям'і масквічоў. Мае закончаны юрыдычны факультэт і Маскоўскую Духоўную Акадэмію. Манаства прыняў яшчэ на другім курсе Акадэміі. Япіскапскую хіратонію атрымаў у 1913 г. У сваёй дзейнасьці на розных становішчах выказаўся як добры адміністратар. Ён належыць да тых нешматлікіх праваслаўных герархаў, якіх савецкая ўлада ніколі не арыштавала - да гэтага прычынілася ягоная дружба зь ведамым чэкістым А.Е. Тучковам, які свайго часу кіраваў усімі царкоўнымі справамі ў СССР. Калі ў 1927 г. мітр. Сяргей Маскоўскі выдаў ведамую дэклярацыю аб прызнаньні савецкае ўлады і лаяльнасьці да яе, дык арх. Аляксей /Сіманскі/ адразу ўвайшоў у склад сяргееўскага Сыноду і стаўся найбольш ак-

тыўным супрацоўнікам мітр. Сяргея ў змаганьні з тымі герархамі, што адмаўляліся падпарадкавацца новаму сяргееўскаму Сыноду. У 1943 г. ён прыймае актыўны ўдзел ў ваднаўленьні патрыярхату, як сябра дэлегацыі да Сталіна, а пасьля сьмерці патр. Сяргея стаецца ягоным наступнікам у 1945 г.

Пад адрасам сваіх бязбожных дзяржаўных кіраўнікоў патр. Аляксей высылае вернападданчыя лісты. Сталіна называў "мудрым правадыром, якога выбраў і паставіў Божы прывід, каб весьці бацькаўшчыну па шляху дабрабыту і славы"[12]. У гэткім дусе патр. Аляксей выдае заклікі і лісты з нагоды розных савецкіх гадавінаў і пасылае прывітальныя тэлеграмы[13]. Такі курс ужо ўвёў патр. Сяргей, а патр. Аляксей, як сам кажа, "ідзе верна тым шляхам, які ясна намеціў" ягоны папярэднік[14]. У запраўднасьці аднак ён часта йдзе шмат далей, чым патр. Сяргей. Напрыклад аб Сталіне казаў: "Наша сьвятая Царква ў ім мае вернага заступніка"[15].

З свайго боку савецкая ўлада пры розных нагодах дзейна выказвае сваю прыхільнасьць да патрыярха. Ведама, што да другое сусьветнае вайны канцылярыя патрыярхату знайходзілася ў бедным доміку на ўскраіне Масквы. У 1943 г. патрыярху былі пераданыяаграмадныя будынкі калішняе нямецкае амбасады. Аб іншых дэманстрацыйных выявах прыхільнасьці савецкае ўлады да патрыярха ўспаміналася перш, тут яшчэ неабходна ўспомніць, што 11.X.1945г. патр. Аляксей атрымаў мэдаль "За абарону Ленінграду", 16.VIII. 1946 г. "Ордэн чырвонага сьцягу", які звычайна даецца за заслугі на карысьць камунізму; 31.VIII.1946 г. мэдаль "За доблесную працу ў часе айчыннае вайны 1941-45".

Праз пасярэдніцтва патрыярха савецкая ўлада вядзе актыўную працу ў пятых калёнах заграніцай. З канцылярыі патрыярха і з подпісам патр. Аляксея выйшлі шматлікія заклікі, звароты і заявы ў справе "арганізацыяў міру", "кангрэсаў міру", атамнага аружжа, дэмакратызацыі Японіі, асуджэньня "агрэсыўнае палітыкі Трумана" і пад.

**Склад герархаў Маскоўскае Патрыярхіі**

Аб іншых савецкіх герархах ведама шмат менш, чым аб самым патрыярху. Аб некаторых агулам нічога ня ведама, апрача іхняга імені і епархіі, хоць яны хіратанізаваныя зусім нядаўна, як напрыклад арх. Філарэт Рыскі і Віленскі хіратанізаваны ў 1948 г. і хоць

нармальна "Журнал Мос. Патр.", успамінаючы аб новай хіратоніі, падае важнейшыя пэрсаналіі новага герарха, аб ім чамусьці не падаў нічога.

Зацікаўленьне ў вольным сьвеце герархамі Расейскае Царквы зусім зразумелае, бо кадры герархаў зьяўляюцца жыцьцёваю справаю Царквы. Што да кадраў герархаў Маскоўскае Патрыярхіі зацікаўленьне збольшваецца тымі абставінамі, што пасьля некалькіразовых арыштаў і ссылак уканцы 1938 г. на абшары СССР аставалася на правячых становішчах толькі 4 архірэі, пару дзесяткаў было ў стане бязьдзейнасьці і пару дзесяткаў знайходзіліся ў турмах і ссылках. І вось у гэткім стане засьпеў Маскоўскую Патрыярхію пераломны 1942 год. Тады з волі савецкае ўлады лік правячых архірэяў стаў раптоўна ўзрастаць. На пачатку 1945 г. іх ужо было 54, у 1948 г. - 78, а на пачатку 1955 г. - 65. Агуламжа за час між 1942 і 1955 г.г. на кіруючых архірэйскіх пасадах у СССР успаміналася 111 герархаў. Адкуль іх Маскоўскі Патрыярх змог толькі набраць?

З турмаў, з ссылкаў і стану бязьдзейнасьці дакааптавана 22, і трэба думаць, што гэта яшчэ ня ўсе, якія знайходзіліся ў ссылках, а толькі тыя, што, зламаныя доўгагадовымі мукамі, згадзіліся на супрацоўніцтва. 3-х узята з абнаўленцаў /а іншых двух перахіратанізавана/. Але найбольш хіратанізавана з аўдавеўшых старэйшых сьвятароў і з старэйшых манахаў - разам 72. І ўканцы 10 было рэпатрыяваных або дабравольна рэпатрыяваліся з заграніцы.

Паводля асьветы хіратанізаваныя пасьля 1942 году 72 герархаў вельмі розьняцца між сабою: вышэйшую багаслоўскую асьвету зь перад 1917 г. маюць 22, вышэйшую сьвецкую асьвету, але ніякае духоўнае - 5, сярэднюю багаслоўскую асьвету маюць - 24, сярэднюю сьвецкую і ніякае духоўнае маюць - 3, манахі бязь ніякае спэцыяльнае асьветы - 14, аб асьвеце нічога ня ведама - 4.

Паводля ідэялёгіі, савецкія герархі прытрымліваюцца прыкладу свайго патрыярха або, лепш кажучы, патрыярх выбраў сабе такіх япіскапаў, якія згадзіліся йсьці ягоным сьледам. Зь іх 22 чалавек у гадох 1946-49 атрымалі розныя савецкія ордэны і мэдалі.

Між герархаў Маскоўскага Патрыярхату ёсьць нямала такіх, якія перш цярпелі за праваслаўную веру. Напрыклад, цяперашні

Ленінградзкі мітр. Грыгоры - гэта калішні а. Мікалай Чукаў, які на судовым працэсе групы мітр. Веніяміна Петраградзкага 5.УІІ.1922 г. быў засуджаны на сьмерць разам зь іншымі, але потым прысуд яму быў заменены на турэмнае зьняволеньне. Агулам з 22 герархаў, дакааптаваных няма ведама адкуль пасьля 1942 г., 10 напэўна было ў турмах і ссылках /Аляксей Панамарэў, Антон РамаНоўскі, Георгі Садкоўскі,Іоаньсікі Сперанскі, Іоў Крэсовіч, Мануіл Лемяшэўскі, Мікалай Марылеўскі. Паладзі Шасьценьнікаў, Піліп Ставіцкі, Фоці Тапіра/.

У сьціслай лучнасьці зь герархамі Маскоўскае Патрыярхіі стаіць іншая катэгорыя людзей - партыйныя камуністыя так званыя Прадстаўнікі па справах Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Савеце мін. СССР на зобласьці - яны зьяўляюцца ўласьцівымі кіраўнікамі савецкіх герархаў.

Асобна трэба зьвярнуць увагу на савецкіх герархаў, якіх высылаюць заграніцу. Гэта пераважна людзі, што прайшлі цьвёрдую школу выпрабаваньня. Некаторыя зь іх ня маюць нічога супольнага з рэлігіяй, калі не сказаць больш. Напрыклад, Аляксей Дзехцяроў да 1917 г. быў паліцэйскім ураднікам у Перме. Пасьля рэвалюцыі выехаў на эміграцыю, але хутка зыйшоўся з савецкім шпіянажам і на загад стаўся "манахам". У 1946-48 гадох ён працаваў на карысьць Комінформу ў Эгіпце, як настаяцель Праваслаўнае Расейскае Місіі, за што быў арыштаваны і прасядзеў паўтара году ў турме. На стараньне савецкае амбасады быў вызвалены і пераехаў на кароткі час у СССР, адкуль быў высланы ў Чэхаславаччыну і там 12.2.1950 г. хіратанізаваны на япіскапа Прашэўскага. А колькі ёсьць падобных да яго "герархаў" у самым СССР і заграніцаю, якіх запраўднае абліччa прыхаванае плёнкай маўчаньня? Для кіраўніцтва Праваслаўнаю Царквою ў Польшчы быў высланы ў 1951 г. Львоўскі арх. Макары Оксіюк, які ўславіўся ліквідацыяй украінскае грэка-каталіцкае Царквы ў супрацоўніцтве з МВД.

<u>Сьвятары</u> Аб колькасьці і якасьці праваслаўных сьвятароў у СССР ёсьць толькі прыблізныя дадзеныя. У 1945г. мітр. Мікалай Круціцкі казаў у Парыжы, што ў СССР ёсьць 20.000 парахвіяў і 30.000 сьвятароў. У 1954 г. арх. Герман /Кожын/ у Нью Ёрку падаў тую самую цыфру аб ліку парахвіяў, але не падаў

ліку сьвятароў.[16] У 1947 г. прат. Андрэй Сяргеенка, адведаўшы СССР, паведамляў, што там ёсьць 25.500 цэркваў, 3.500 капліцаў і 33.000 сьвятароў[17]. Спраўдзіць верагоднасьць гэтых дадзеных немагчыма; але зь іхняе разьбежнасьці відаць, што гэта прыблізныя дадзеныя, разьлічаныя перадусім на прапаганду.

Колькі-б іх ня было, але адно ёсьць пэўным, што сьвятары ў СССР, падобна як і герархі, у значнай бальшыні гэта людзі старэйшага веку і яшчэ дарэвалюцыйнага ўзгадаваньня. Не бракуе так-жа і малодшых векам, але трэба дагадвацца, што між імі пераважаюць дзеці духавенства, значыць з тых сем'яў, дзе яшчэ трымаецца стары лад.

За прыкладам сваіх герархаў сьвятары ў сваёй дзейнасьці вызначаюцца савецкім патрыятызмам. Навет сучасная савецкая супрацьрэлігійная прэса прызнае, што цяперашняе духавенства адносіцца ляяльна да савецкае ўлады[18]. І трэба сказаць, што некаторыя сьвятары адносяцца больш чым ляяльна; не дарма ў 1946-48 гадох ім было выдана 253 розныя савецкія мэдалі й ордэны.

Акадэміі і сэмінарыі За час змаганьня супраць рэлігіі бальшавікі маглі сьцьвердзіць няпрыемны для іх факт, што тыя людзі, якія адважыліся стацца сьвятарамі ў вабставінах перасьледаваньня, зьяўляюцца недаступнымі для бязбожнае прапаганды і маюць вялікі ўплыў на сваё асяродзьдзе. Пасьля сьцьверджаньня поўнага правалу бязбожнае прапаганды, бальшавікі дашукваліся прычыны свае няўдачы не ў запраўдных крыніцах, але, як звычайна, у розных недарэчных меркаваньнях, але частку адказнасьці ўскладалі на яўных і тайных "служыцеляў культу". Дзеля гэтага, зьмяніўшы тактыку да рэлігіі, пастанавілі ўвесьці новую сыстэму ўзгадаваньня сьвятароў новага тыпу, якія-б замянілі ў будучыні тых сьвятароў, якія тайна ці яўна, хочучы гэтага ці навет ня хочучы, крыжавалі пляны савецкае бязбожнае прапаганды. З гэтаю мэтаю адразу пасьля сканчэньня другое сусьветнае вайны дазваляліся душпастырскія курсы ў паасобных эпархіях, а потым былі адчыненыя сталыя духоўныя навучальныя ўстановы: 8 духоўных сэмінарыяў: у Маскве 14.УІ.1945, Ленінградзе ХІ.1945, Луцку 1945, Адэсе 1945, Стаўрапалі 1946, Кіяве 1947, Жыровічах 1947 і Саратаве 1947. У 1946 г. былі адчыненыя, на месцы заснаваных у 1944г.

Інстытутаў, Духоўныя Акадэміі ў Маскве і Ленінградзе. У гэтыя навучальныя ўстановы прыймаюць вучняў у веку ня ніжэй 18 гадоў і толькі камсамольцаў, якія да гэтага мусяць мець рэкамэндацыю трох камуністых[19]. Гэта значыць, што адбор кандыдатаў на савецкіх сьвятароў ёсьць больш сурогім, чымся адбор самых камуністых, бо да прыняцьця ў камуністычную партыю вымагаецца рэкамэндацыя толькі двух камуністых. Агульнага ліку сэмінарыстых і студэнтаў немагчыма азначыць, бо апошнім часам у справаздачах аб заканчэньні і пачатку заняткаў, якія падаюцца на бачынах "Ж.М.П.", чамусьці не падаюцца лікавыя дадзеныя аб вучнях. Толькі ведама, што ў маскоўскіх Сэмінарыі і Акадэміі ў 1953 г. было 340 вучняў; у ленінградзкіх Сэмінарыі і Акадэміі ў 1952/53 было іх 396.

Навука ў сэмінарыях і акадэміях бясплатная і да таго на пражыцьцё сэмінарыстыя атрымоўваюць месячную стыпэндыю 200 руб., а студэнты акадэміяў 260 руб.

У навучальных праграмах у сэмінарыях філязофія ня выкладаецца, а ў акадэміях вельмі мала, сумесна зь гісторыяй філязофіі, затое ў сэмінарыях выкладаецца Канстытуцыя СССР. Да таго ў дні розных савецкіх угодкаў адбываюцца "зборкі з дакладамі на тэмы азначаных здарэньняў. У дзень савецкае арміі і ваеннаморскага флёту, дзень паветранага флёту, у міжнародны жаночы дзень, праводзяцца адпаведныя інфармацыі і чытаньне газэтаў у сталоўцы сэмінарыі. Штодзенна падчас вячэры праводзілася чытаньне газэтаў"[20]. Так паведамляюць аб узгадаваньні ў Кіеўскай Духоўнай Сэмінарыі, і трэба думаць, што яно ўва ўсіх сэмінарыях праводзіцца аднолькава.

Зразумела, што 8 сэмінарыяў і 2 акадэміі далёка ня выстарчаюць для падрыхтоўкі патрэбнае колькасьці сьвятароў на абсаду тых парахвіяў, якія зь ліку 20.000 могуць апаражніцца ў працягу году. Каб запоўніць гэтую нястачу герархі змушаныя практыкаваць і далей уведзены ад даўна спосаб высьвячаць на сьвятароў людзей бязь ніякае багаслоўскае асьветы з псаломшчыкаў або проста харыстых, пасьля таго як яны некалькі гадоў праслужаць дыяканамі. Гэты спосаб падрыхтоўкі сьвятарства, які абмінае савецкія сэмінарыі, бальшавікі мусяць талераваць ня толькі таму, каб не пабольшваць ліку сэмінарыяў, але і таму, што ён дае магчымасьць лёгка ўводзіць у рады сьвятароў сваіх агентаў.

Манастыры Перад другою сусьветнаю вайною на абшары СССР з калішніх 550 мужчынскіх і 475 жаночых праваслаўных манастыроў не асталося ніводнага. Пасьля 1942 г. яны пачалі адчыняцца. Няма вестак аб тым, як адбывалася гэтае адкрыцьцё і адкуль браліся манахі. Агульна ведама, што арганізатарамі новаадчыненых манастыроў былі старыя манахі, якія перажылі ў расьсеяньні цяжкія гады войстрага прасьледаваньня. Паводля слоў мітр. Мікалая Круціцкага ў Парыжы, ужо ў 1945 г. мела існаваць на абшары аж 97 мужчынскіх і жаночых манастыроў[21]. Прат. Сяргеенка кажа, што ў 1947 г. іх было "каля 90 і тры лаўры".[22] Але можна думаць, што гэта хутчэй лік не ўзапраўды існуючых манастыроў, а толькі запраектаваных і дазволеных савецкаю ўладаю, бо вясною 1954 г. арх. Герман /Кожын/ казаў у Нью Ёрку, што ў СССР ёсьць толькі 70 манастыроў[23]. Аднак і гэты лік выдаецца шмат перабольшаным, бо ў запраўднасьці на бачынах "Ж.М.П." і на бачынах іншае савецкае прэсы да гэтага часу ўспаміналася ўсяго 38 манастыроў[24].

Калі цяжка азначыць лік манастыроў, дык тымбольш цяжэй азначыць лік манахаў. Толькі што да больш ведамых манастыроў і лаўраў прынагодна ўспамінаецца, колькі там ёсьць манахаў ці манашак. /У Кіява-Пячэрскім манастыры 84, у Горадні - 70 манашак/.

Няма сумлеву, што цяпер у манастырох ёсьць манахі і манашкі, якія ўступілі туды з чыста рэлігійных матываў. Не дарма "Комсомольская Правда" апублікавала ліст аднаго "абуранага" бацькі, што ягоная дачка студэнтка радыётэхнікуму Вера Кудзінова хоча ўступіць у жаночы Кіява-Пячэрскі манастыр[25]. Але такжа пэўна, што ёсьць людзі, якія ня маюць нічога супольнага з манаствам - гэта зыркае вока МВД.

Афіцыяльна манастыры, як такія, згодна даваенным законадаўствам немагчымыя, бо яны, як рэлігійныя арганізацыі ці згуртаваньні ня маюць юрыдычнае асабовасьці, але цяпер іх афіцыяльна зарэгістроўваюць, як калектыўныя гаспадаркі або як арцелі.

Узнагароды і чысткі Савецкі спосаб падыходу да людзей, якія займаюць адказныя становішчы, або іх усслаўляючы пад неба, або топячы ў балота, бальшавікі прытарноўваюць так-жа і да ўсіх служыцеляў рэлігійных культаў. Непадатных

для савецкіх паслугаў каталіцкіх герархаў бальшавікі абвінялі ў розных фантастычных "злачынах", потым судзілі і высылалі, або ў турмы або ў ссылкі, або проста ліквідавалі.

Спаміж герархаў Расейскае Праваслаўнае Царквы бальшавікі знайшлі сабе верных супрацоўнікаў і ў дачыненьні да іх не шкадуюць ані пахвалаў, ані ўзнагародаў. Ужо перш успаміналася, колькі бальшавікі раздалі мэдаляў і ордэнаў архірэям і колькі сьвятаром, тут яшчэ дадаткова трэба ўспомніць, што, апрача мэдаляў, нямала герархаў і сьвятароў атрымала залатыя крыжы, каштоўныя пангагіі і навет крыжы з дыямантамі. Афіцыяльна гэткія ўзнагароды раздаваў Маскоўскі Патрыярх, але хіба-ж не патрэбна тлумачыць, адкуль ён іх дастаў.

Аб узнагародах заўсёды падаюцца весткі на бачынах "Жур.Маск. Патр.", але там ніколі не ўспамінаецца аб чыстках і арыштах між духавенствам. А між тым і гэткія падзеі ўжо няраз мелі месца ў СССР.

У 1944 г., калі Немцы былі адкінены з акупаваных абшараў, на тэрыторыі СССР асталася вялікая частка герархаў Украінскае Аўтаномнае Царквы, якая прызнавала над сабою зьверхнасьць Маскоўскага Патрыярха. Гэта былі: яп. Веніямін /Навіцкі/ Палтаўскі, яп. Дамаскім /Малюта/ Камянец-Падольскі, яп. Іоў /Крэсовіч/, яп. Нікодым Валадзімір-Валынскі, яп. Панкраці /Гладкоў/ Белгародзкі і арх. Сімэон /Іваноўскі/ Чарнігаўскі. Зь іх толькі адзін Іоў /Крэсовіч/ атрымаў у 1945 г. эпархію /цяпер ён зьяўляецца яп. Казанскім/, а іншыя былі арыштаваныя або дзесь зьгінулі бязь ніякіх вестак. Тое-ж сталася і з расейскім яп. Іванам /Шырокавым/.

Трэба зьвярнуць увагу, што арышты і ліквідацыя гэтых герархаў сталася ў той час, калі расейская Царква на гвалт патрабавала япіскапаў для абсады запраектаваных, але пустуючых яшчэ эпархіяльных пасадаў - гэта быў 1944 г. Значыць і тады Маскоўскі Патрыярх і ягоныя фактычныя кіраўнікі ня шукалі япіскапаў як такіх, але ў першую чаргу паслушных прыладаў для выкананьня бальшавіцкіх пляпаў.

Арышты ў 1944 г. праводзіліся так ціха, што аб іх заграніцаю даведаліся некалькі гадоў пазьней, дзеля гэтага ў 1946-1947 гадох 6 япіскапаў з расейскае і ўкраінскае герархіі заграніцай

дабравольна рэпатрыяваліся ў СССР, паверыўшы ў савецкую прапа-ґанду аб зьмене бальшавіцкай рэлігійнай палітыкі на лепшае. Яны разам зь герархамі, узятымі з ссылкі і арыштаў, былі "прачышчаны" ў 1948/50 гадох. Чыстка распачалася летам 1948 г. зь Сібіру. Тады быў арыштаваны Усходня-Азіяцкі Экзарх мітр. Нэстар /Анісімаў/ і двух япіскапаў былі звольненыя на пакой. У наступным 1949 годзе арыштавана адразу трох япіскапаў: Іоаньнікія /Сьперанскага/, Максіма /Бачынскага/ і праўдападобна Міхаіла /Постнікава/, але аб арышце гэтага апошняга магчыма сумлявацца таму, што ён быў калісь абнаўленцам, дык хутчэй можна думаць, што ён трапіў у "запрэт", але чамусьці "Ж.М.П." аб гэтым нічога не паведаміў. У тым-жа годзе было звольнена на пакой аж 7 герархаў і зь іх некаторыя так-жа былі арыштаваныя: арх. Мануіл /Лемешэўскі/ і нейкае асабліваe звальненьне меў яп. Феадосі /Карневецкі/ між гадамі 1949-53. У 1950 г. быў арыштаваны арх. Данііл /Юзьвюк/, а ў 1951 г. арх. Антон /Марцэнка/ - абодвы рэпатрыяваныя ў 1946 годзе.

Ані савецкая прэса, ані "Ж.М.П." ні словам не заікнуліся аб чыстцы і арыштах, дзеля гэтага ў вольным сьвеце і па сяньняшні дзень аб іх мала што ведаюць. З усяе пэрыядычнае прэсы, толькі два часапісы і адна ґазэта да гэтага часу падалі весткі аб арыштах савецкіх герархаў: "Божым шляхам"[26], падаючы дакладна абгрунтаваньне вестак аб арыштах, і "Irenikon"[27], але гэты апошні падаў сьпіс арыштаваных герархаў вельмі няпоўны /толькі чатырох архірэяў/.

Няма сумлеву, што адначасна зь япіскапамі ахвярамі чысткаў былі так-жа і больш руплівыя сьвятары, але ані іхных імёнаў, ані тымбольш іхняе колькасьці азначыць немагчыма. Аб тым, што ўзапраўды сяньня ёсьць шмат праваслаўных сьвятароў у бальшавіцкіх турмах, апавядае а. Пятро Аляджыяні, які ў 1954 г. вясною вярнуўся з СССР і дзе асабіста сустракаў арыштаваных сьвятароў у турмах. Аб гэтым дакладней глядзі ў разьдзеле аб Катакомбнай Царкве.

Падводныя плыні Цішком праводжаныя арышты і чысткі даюць падставу дагадвацца, што пад ціхаю паверхняй гладкае савецкае прапаганды ў улоньні сучасных савецкіх герархаў могуць крыцца неспадзяванкі для бальшавікоў. Не зважаючы

на далёкапасуненую ляяльнасьць і нізкапаклонства перад савецкаю ўладаю, у кіраўніцтве Расейскае Праваслаўнае Царквы часам выяўляюцца некаторыя асьпірацыі, якія відавочна ня зусім супадаюць з намерамі савецкае рэлігійнае палітыкі. Паказальнаю з гэтага гледзішча можа быць статыстыка.

Колькасны рост герархаў Расейскае Праваслаўнае Царквы дасягнуў свайго кульмінацыйнага пункту ў 1948 г. І ад таго часу лік герархаў пачаў паступова зьмяншацца. За 1951 і 1952 гады ня быў хіратанізаваны ніводзін новы япіскап, і ў канцы 1952 г. на правячых становішчах аставалася толькі 60 архірэяў. Але вось пасьля сьмерці Сталіна за адзін 1953 г. раптам было хіратанізавана аж 8 новых япіскапаў. Калі-б гэткі раптоўны рост адказваў бальшавіцкім плянам, дык-бы трываў далей, але ў наступным годзе было хіратанізавана толькі 2. Гэта сьветчыць, што лік герархаў у далейшым праўдападобна будзе зьмяншацца згодна зь лініяй, намечанай у 1948 г., а раптоўны скок у 1953 г. ня ёсьць звычайным выпадкам, храналягічна супадаючым зь сьмерцю Сталіна. Можна дагадвацца, што ў кіраўніцтве Царквы, навет між тымі герархамі, якія пайшлі на службу выконваньня бальшавіцкіх бязбожных плянаў, ёсьць яшчэ людзі, якія дзесь у глыбіні душы хаваюць жаданьне больш дбайлівага выконвачьня сваіх сьвятарскіх абавязкаў. Праўда, больш пераконваючых доказаў на існаваньне чагосьці падобнага няма, і навет сама дагадка можа шмат каму выдавацца немагчымай, бо як агулам нейкі герарх, захаваўшы крыху сьвятарскага сумленьня, можа пагадзіць яго з выслужваньнем савецкай бязбожнай уладзе?

Адказам на гэтае пытаньне, што ў СССР такія паводзіны магчымыя, можа быць артыкул "Хамалеон" у "Литературной газете". Там карэспандэнты газэты А.Палавіньнікаў і Н.Сяліверцаў абураюцца на тое, што супрацоўнік адзьдзелу нумізматыкі ў Ленінградзкім Эрмітажы, выдатны іранолёг, абсальвэнт Ленінградзкага ўнівэрсытэту, Міхаіл Дабрынін, які падчас сваіх студыяў на ўнівэрсытэце выдатна здаў эгзамены з марксізму-ленінізму, быў іпадзіяканам у Ленінградзкай катэдры, а другі выпадак з таго-ж Ленінграду абурае карэспандэнтаў, што вучоны супрацоўнік Акадэмічнага Інстытуту Гінэкалёгіі, выдатны біялёг Веніямі Багданаў-Беразоўскі, сябра камуністычнае партыі ад 1942 г., адмовіўся

мецъ даклад на бязбожную тэму, заяўляючы публічна, што зьяўляецца верючым[28].

Зрэштаю такое скамплікаванае становішча між двумя супярэчнасьцямі да не пагоджаньня ня новае для расейскіх герархаў. Ужо даўней царская ўлада няраз стаўляла іх у неабходнасьць пакорлівасьці несправядлівай уладзе, і тады для самаапраўданьня быў выказаны пагляд, што такая пакорлівасьць "можа ўважацца як асцэтычны ўчынак"[29].

Відавочна ў такім сэньсе "самаапраўданьня" трэба разумець той разьдзел кнігі аб патр. Сяргею, дзе даказваецца, што калішняя залежнасьць Расейскае Царквы ад царскае ўлады была шмат горшаю ад сучаснае залежнасьці ад бязбожнай улады. Бо калісь ПётрI змушаў архірэяў ладзіць у сябе асамблеі, "а Кацярына II застаўляла іх езьдзіць у італьянскую опэру . Пры тэй-жа Кацярыне II на чале Сыноду стаялі два обэр-пракуроры, якіх праваслаўе было больш чым сумлеўным, а навет обэр-пракурор брыгадзір Чэбышаў быў папросту няверуючым чалавекам і гэтым яўна хваліўся..." І ад тады "Царква з а т а і л а с я, бо яе бязьлітасна прасьледвалі па ўсёй лініі"[30]. Выснаў з гэтага напрошваецца сам сабою: калі пад уладаю праваслаўных цароў Царква мусіла затойвацца, дык што-ж ёй астаецца іншага пад уладаю бязбожнікаў!? Але ўся бяда ў тым, што бальшавіцкая сыстэма накіравана на тое, каб выкрыць усякае затоеньне. За кажным грамадзянінам савецкага Саюзу сочаць вольныя і нявольныя сэксоты, тымбольш яны сочаць за герархамі.

Вернікі Колькі цяпер можа быць у СССР веруючых людзей і колькі ў тым ліку праваслаўных, на гэта няма ніякіх дадзеных. На падобнае пытаньне прадстаўніка агенцыі Райтэра патр. Аляксей у 1948 г. адказаў, што цяпер пры парахвіях не вядзецца сьпісаў вернікаў, таму і адказ на пытаньне немагчымы.

Да 1917 г. у Расейскай Імпэрыі 65% насельніцтва належала да Праваслаўнае Царквы. Цяпер-жа пасьля 38 гадоў бязбожнае прапаганды трэба лічыцца з адпадам часткі насельніцтва ад Царквы, але такі-ж адпад магчымы ўва ўсіх іншых веравызнаньнях, таму працэнтовыя адносіны праўдападобна асталіся такія самыя. Цяжэй азначыць працэнт адпаду. У 1937 г. падчас перапісу насельніцтва большая частка жыхарства Савецкага Саюзу мела адвагу запісаць у вапыталь-

ных анкетах, што верыць у Бога. Хоць вынікі таго перапісу ніколі ня былі апублікаванымі, але паводля неафіцыяльных вестак веруючымі запісалася каля 70%. Падчас нямецкае акупацыі ў 1941 г. пагалоўна ўсё насельніцтва ўдзельнічала ў богаслужэньнях і прыймала Сьвятыя Тайны, значыць адпад, спрычынены бязбожнаю прапагандаю, быў павярхоўным і мімалётным зьявішчам.

Аб сучасным стане рэлігійнасьці ў СССР зьяўляюцца часам у вольным сьвеце розныя апісаньні тых, што мелі магчымасьць адведаць некаторыя гарады ў гэтай дзяржаве. Аднак весткі, якія яны падаюць, заўсёды няпоўныя і часам тэндэнцыйныя. Усе аднازгодна кажуць, што ў Маскве падчас багаслужэньня цэрквы поўныя. Няма падставы сумлявацца, што гэта праўда, але ня ўся праўда, бо ў Маскве на 4.137.000 жыхароў ёсьць дзейных толькі 55 цэркваў і капліцаў і пры тым пераважна невялікіх. Падобнае становішча і ў іншых гарадох, а на вёсках пасьля калектывізацыі цэрквы сталіся рэдкасьцю, хоць працэнт веруючых людзей на вёсках значна большы, як у гарадох і мястэчках.

Паводля асьведчаньня прат. Кольчыцкага, які вядзе справы Маскоўскае Патрыярхіі, у Маскве каля 50% ахрышчаных дзяцей, але ў іншых гарадох іх значна менш, затое ў вёсках гэты працэнт значна большы.[31]

Незалежна ад працэнту ахрышчаных дзяцей і парахвіяў на аснове савецкае прэсы з двух апошніх гадоў можна сьцьвердзіць, што апошнім часам на ўсім абшары Савецкага Саюзу адчуваецца ажыўленьне рэлігійнасьці. Якраз гэты факт быў выклікаў у канцы 1953 г. узмацненьне супрацьрэлігійнае прапаганды, якая часта пачынала пераходзіць у завайстранае перасьледаваньне і якое мусіла злагоджваць ЦК камуністычнае партыі сваею пастановаю з 10.XI.1954. Як выявілася нядаўна, прычынаю злагоджаньня бязбожнае прапаганды было вострае зьменшаньне прадукцыі падчас збольшаньня бязбожнае кампаніі.

Для савецкіх кіраўнікоў было асабліва няпрыемна сьцьвердзіць, што ўзрасло зацікаўленьне да рэлігіі між моладзьдзю, дзе імя Бога выгнанае ад 1918 г. і дзе актыўна праводзіцца бязбожная прапаганда. Студэнты ўсіх факультэтаў вышэйшых савецкіх школаў забавязаны выслухаць лекцыі і здаць эгзамен з марксізму-ленінізму і міма гэтага навет між імі знайшлося нямала веруючых.

Сярод шматлікіх вестак аб узросьце рэлігійнасьці між моладзьдзю варта назваць хоць некаторыя факты, як прыклады, узяўшы іх з савецкіх газэтаў, і аб верагоднасьці якіх няма падставы сумлявацца.

"Комсомольская Правда" з 20.2.1953 абураецца на моладзь зь вёскі Іванаўка за тое, што ў сувязі зь якімсьці цудам у гэтай вёсцы ўзрасло агульнае зацікаўленьне рэлігіяй. Яшчэ горш гневае рэдакцыю газэты з дня 9.УІІ.1953 г. факт, што студэнтка радыётэхнікуму хоча ўступіць у манастыр. У вёсцы Стара-Макееўка Стаўрапальскае вобл. камсамольцы ўдзельнічалі й на абрадзе шлюбу ў царкве. Раённы камітэт камсамолу вёў сьледзтва ў гэтай справе і выкрыў, што там ніхто ня цікавіўся антырэлігійнай прапагандай, і бязбожная літаратура ляжыць у бібліятэцы незакраненай[32].

У мінулым годзе многія газэты няраз перадрукоўвалі з расейскіх савецкіх газэтаў розныя весткі аб узросьце рэлігійнасьці. Было-б лішнім іх тут паўтараць, але з тых вестак хтосьці мог-бы памылкова думаць толькі аб узросьце рэлігійнасьці ў Расеі, калі ў запраўднасьці гэтае зьявішча назіраецца ўва ўсім СССР. Для прыкладу вось некалькі характэрных вестак зь Беларусі.

Аб масавым узросьце рэлігійнасьці між моладзьдзю Берасьцейскае вобласьці ў 1953 г. алярмаваў С.Мядзьведзеў Берасьцейскую абласную ўправу камсамолу, абвінавачваючы пры гэтым царкоўнікаў за тое, што яны - "імкнуцца актывізаваць сваю дзейнасьць сярод моладзі", але мусіў прызнаць, што ў Давід-Гарадоцкім раёне камсамольцы выконваюць рэлігійныя абрады: "У вадным калгасе імя Молатава за апошні час павянчаліся тры сябры камсамолу", і дадае, што падобныя "факты выконваньня рэлігійных абрадаў маюць месца ў іншых раёнах".[33]

З Гомеля калектыўная карэспандэнцыя "Забыты ўчастак працы" паведамляла, што ў ваколіцах Добруша ў часе рэлігійных сьвят людзі не працуюць і дзьве-трэйціх вучняў ня ходзіць у школы. "У любое рэлігійнае сьвята тут парушаецца агульны працоўны рэжым. У сьвята Усьпеньня мала хто з калгасьнікаў працаваў у полі". Больш таго: "Ёсьць выпадкі, калі інжынерна-тэхнічныя работнікі прадпрыемства /хвабрыкі паперы ў Добрушы/ трымаюць у сваіх кватэрах іконы, хрысьцяць дзяцей у царкве. Так нядаўна хрысьцілі дзяцей у царкве брыгадзір сартыроўвачнага цэху член партыі Н.Сьмі-

рноў, мэханік сшытковага цэху В.Лосеў".[34] У камсамольскай газэце для БССР "Чырвонай зьмене" ёсьць частыя нараканьні на рэлігійнасьць беларускае моладзі. Гэтая газэта з 16 траўня асабліва наракае на моладзь з Гомельскае вобласьці за тое, што наведвае дамы сэктантаў і цэрквы ды судзейнічае распаўсюджваньню розных сьвятых пісьмаў. Гаворачы агулам аб сучасным стане рэлігійнасьці на Беларусі, В.Пятроў сьцьвярджае, што "ў радзе месцаў ... рэлігійныя перажыткі навет ажывіліся"[35].

Некаторыя верхаводы камсамолу, сьцьвердзіўшы факт агульнага ўзросту рэлігійнасьці ў СССР, прабавалі шукаць прычынаў гэтага зьявішча. Адзін зь іх перад зьездам камсамолу нападае на старэйшых бабулек, якія апавядаюць моладзі жыцьці сьвятых і мае жаль да ўрачыстых абрадаў царкоўнага шлюбу і інш., тады калі ў процiўвагу гэтым "прынадам" камсамольскія арганізацыі не даюць нічога[36]. Іншы камсамольскі кіраўнік на прыкладзе вёскі Сьвяцічы бачыць прыцягваючую сілу цэркваў у добра зарганізаваным хоры, прыгожым сьпеве і добрых казаньнях сьвятароў[37]. Асабліва красамоўныя казаньні нябясьпечныя для камсамолу, калі "сьвятар выгалошвае свае казаньні з жарам і зь пераканаваньнем без заглядaньня ў запіскі".[38]

Прычыны названыя кіраўнікамі камсамолу што да ўзросту пабожнасьці зусім другарадныя, запраўдныя прычыны схаваны шмат глыбей, але тут ня месца займацца імі. На гэтым месцы даволі сьцьвердзіць факт, што насупраць шматгадовай бязбожнай прапагандзе ў Савецкім Саюзе адчуваецца ўзрост рэлігійнасьці, і тут трэба шукаць ключа да манэўраў савецкіх кіраўнікоў у іхных дачыненьнях да рэлігіі.

Катакомбная Царква

У ваблічы факту ажыўленьня рэлігійнасьці ў СССР можа паўстаць не ў аднаго пытаньне: ці сучасныя савецкія сьвятары маюць магчымасьць задаволіць ажыўленыя патрэбы вернікаў? На першы пагляд на гэтае пытаньне адказаць вельмі проста: калі вернікі масава ходзяць у вадчыненыя савецкія цэрквы, значыць тамашнія сьвятары іх задавальняюць. Ды што могуць закінуць вернікі савецкім сьвятаром і герархам, калі іх прызнаюць за запраўдных сьвятароў і запраўдных архірэяў навет усходнія патрыярхі!? Але такія адказы маюць

шмат слабых месцаў, бо бальшавіцкая прапаганда можа лягчэй здэзарыентаваць усходніх патрыярхаў, далёкіх ад Савецкага Саюзу, чым сваіх грамадзян, якія бачаць сваімі вачыма і адчуваюць на сабе ўвесь цяжар і кашмар савецкае запраўднасьці і савецкае хлусьні, якая пранікла аж у Царкву. Праўда, у кананічным праве і ў дагматычных дакладнасьцях вернікі, за малымі выняткамі, не разьбіраюцца, але затое яны ясна могуць бачыць, што Царква, якая падпарадкавалася савецкай уладзе і сталася прыладаю ў руках бязбожнікаў, ня ёсьць праваслаўем, але бязбожнай гэрэзіяй, якая апранулася ў вопратку праваслаўя. Колькі такіх вернікаў ёсьць, адказаць немагчыма, але пэўна, што яны нешматлікія і што яны не належаць да тых масаў, якія напаўняюць савецкія цэрквы. Зрэштаю ў СССР, дзе грамадзяне прывучаныя галасаваць за савецкую ўладу на 99,9%,ня выключана, што навет тыя вернікі, якія ня прызнаюць савецкіх сьвятароў, могуць хадзіць у савецкія цэрквы. Але калі пытаемся пра Катакомбную Царкву, дык перадусім пытаемся, ці ёсьць сьвятары і архірэі гэтае Царквы.

Пытаньне існаваньня Катакомбнае Царквы ў СССР на працягу апошніх гадоў ужо ня раз дыскутавалася ў розных кругох і пры розных нагодах, але ніколі не атрымала належнага адказу й высьненьня. Найбольш доказаў аб яе існаваньні падаў да гэтага часу калішні вязень і сам удзельнік Катакомбнае Царквы праф. І.Андрэяў на бачынах "Православной Руси"[39] і ў васобнай кніжцы[40]. Факты, якія ён падае аб заснаваньні Катакомбнае Царквы ў 1927 г. і аб яе існаваньні да другое сусьветнае вайны, на толькі пераконваючыя, што ў іх праўдзівасьці нельга сумлявацца. Ды навет і бязбожная прэса перад 1940 г. калі-не-калі, ня хочучы, давала доказы аб існаваньні гэткае Царквы, калі насьмяхалася над вандроўнымі сьвятарамі, якія "маюць у сваіх хатылёх усю царкву". Да таго агульна ведама, што ў часе вайны на ўсім абшары, акупаваным Немцамі, выявілася шмат утоеных сьвятароў.

Няма сумлеву, што бальшавікі добра ведалі аб існаваньні патаемнае Царквы, як аб гэтым сьветчыць прэса бязбожнікаў, і, міма стараньняў сваіх агентаў, не маглі зьнішчыць гэтае Царквы, але і прымірыцца зь ёй ніяк не маглі, бо яна сваім нелегальным існаваньнем выяўляла ўсю ману савецкае прапаганды аб свабодзе сумленьня. Дык можна дагадвацца, што плянуючы новую тактыку, бальша-

вікі паставілі не на апошнім месцы, як асобны пункт у праграме для Маскоўскага Патрыярха, дапамагчы вынішчыць утоеную Царкву.

Ужо перш успаміналася, што бальшавікі вынішчылі навет афіцыяльна заіснаваўшыя Цэрквы, якія ня прызнавалі местадзяржыцеля Маскоўскага Патрыярха пасьля ягонага асьветчаньня аб лаяльнасьці, дык тымбольш войстра выступілі супраць тых, хто дзеля пратэсту супраць прасавецкае лініі Маскоўскага Патрыярха пайшоў у "катакомбы". Цяжка сказаць, ці агенты МВД, пераапраненыя за праваслаўных сьвятароў, маглі лягчэй вылоўліваць утоеных сьвятароў, як агенты ў уніформах, але ёсьць весткі, што выяўленых у савецкай зоне Нямеччыны тайных сьвятароў і агулам тых сьвятароў, якія ня прызнавалі патр. Аляксея, бальшавікі расстрэльвалі[41]. Ня інакш дзеелася і ў СССР. Магчыма, што пад уплывам гэтага тэрору, больш чым пад уплывам дэманстратыўнае зьмены тактыкі што да рэлігіі, некаторыя ссыльныя архірэі згадзіліся прызнаць савецкага патрыярха.

Савецкая прапаганда пасьля вайны толькі адзін раз фармальна зарэагавала на весткі аб Катакомбнай Царкве, калі ў 1948 г. зарубежны расейскі яп. Нафанаіл /Львоў/ публічна заявіў, што ў СССР існуе Катакомбная Царква, абасноўваючы сваё цьверджаньне на словах савецкага яп. Іоасафа /Жураўлёва/, які ў сваім казаньні аднойчы ўспамінаў, што ў ягонай епархіі яшчэ ёсьць "сэктанты і так званыя самасьвяты, якія паклёпнічаюць на Праваслаўную Царкву, распаўсюджваючы зьнеслаўленьне на Сьвяцейшага Патрыярха і на ўвесь сьвятарскі чын". На гэта ў "Ж.М.П." было апублікавана "Абвяржэньне злоснага паклёпу"[42]. Але гэтае "абвяржэньне" не магло запярэчыць слоў, узятых зь іхняга часапісу, і не давала ніякіх фактаў супраць існаваньня Катакомбнае Царквы. Дзеля гэтага загранічная прэса назвала яго пацьверджаньнем існаваньня Катакомбнае Царквы[43]. І характэрна, што ані "Ж.М.П.", ані наагул савецкая прэса на такое цьверджаньне зусім не зарэагавалі. Праўда, гэта якраз быў пачатак чысткі савецкіх герархаў.

Што яшчэ сяньня асталося ад Катакомбнае Царквы і ці наагул што асталося, цяжка сказаць, але агулам аб існаваньні праваслаўнага духавенства, якое ня прызнае патр. Аляксея, апошнім часам апублікавана зусім верагодныя весткі. Вясною 1954 г. вярнуўся з СССР а. Пятро Аляджыяні, дзе быў ад 1942 г., і за гэты час,

як італьянскі палонны, пражываў у шматлікіх лягерах і турмах, і там асабіста сустракаў засуджаных праваслаўных сьвятароў і чуў шмат аб настроях вернікаў што да сучаснае савецкае герархіі. Ягонае апавяданьне на толькі цікавае, што нельга ўстрымацца, каб не зацытаваць прынамся больш цікавых месцаў: "Мне казалі, што ад некалькі гадоў больш шчырыя хрысьціяне ўтварылі групы "запраўдных веруючых", якія ня ходзяць у цэрквы, што падлягаюць патр. Аляксею, але зьбіраюцца на малітвы ў прыватных дамох, куды прыходзяць адпраўляць багаслужэньне сьвятары старога закалу, для якіх патр. Аляксей і ягоныя япіскапы ёсьць ня што іншае, як пагане, чэкістыя і бязбожнікі". Аднойчы, калі а. Аляджыяні быў пераведзены ў іншую турму, спаткаў там старэйшага векам праваслаўнага сьвятара, які яму казаў: "Наша Царква цяпер ёсьць інструмантам бязбожнае ўлады. Ад калі яна такою сталася, я не магу яе прызнаць за маю маці. я ніколі не ўспамінаў на сьв. Літургіі імені Аляксея. Дзеля гэтага ён мяне перасьледаваў, пагражаючы ўсялякімі духоўнымі й матарыяльнымі карамі. А калі я не хацеўісьці супраць майго сьвятарскага сумленьня, дык мяне арыштавалі і засудзілі на 25 гадоў прымусовае працы. Празь пятнаццаць гадоў я хадзіў ад гораду да гораду, ад дому да дому, каб навучаць, хрысьціць дзяцей і падтрымоўваць вернікаў сьвятымі Тайнамі. Дзякаваць Богу, ёсьць нямала сьвятароў, што так робяць. Але аднаго дня выкрылі мяче эмісары нашага "сьвяцейшага" патрыярха. Аднак я не наракаю, ня падаю духам, хоць на маіх плячох цяжыць семдзесят пятая вясна. Так і цяпер я так шчасьлівы, што багаслаўлю дзень і гадзіну майго арышту". Далей а. Аляджыяні дадае: "Потым я даведаўся, што ў лягерах і ў турмах мучацца шматлікія сьвятары і вернікі, абвінавачаныя за тое, што ня прызнаюць патр. Аляксея ... іх называюць "запраўднымі веруючымі"[44]. Камэнтары да гэтых фактаў былі-б лішнімі.

Матарыяльнае палажэньне Расейскае Праваслаўнае Царквы

Да 1942 г. усе служыцелі ўсіх рэлігійных культаў у СССР мусілі плаціць аграмадныя падаткі, а ўсе дамы малітвы, апрача падаткаў, яшчэ дадаткова былі абложаныя аграмаднаю страхоўкаю. Калі вернікі ня былі ў стане ўсяго гэтага заплаціць у сваім часе, сьвятыні закрываліся, а сьвятары найчасьцей арыштоўваліся. Пасьля

1942 г. палажэньне зьмянілася. Цяпер больш ня чуваць аб аграмадных сумах падаткаў, толькі яшчэ ў некаторых ваколіцах сьвятыні й сьвятары з гэтым маюць нямала цяжкасьцяў. Дзеля нястачы вестак цяжка сказаць, як падатковыя налогі разьмяркоўваюцца для паасобных веравызнаньняў, але што да Расейскае Праваслаўнае Царквы дык вэсткі аднагодныя ў тым, што яе цяпер падатковая бальшавіцкая сыстэма не абцяжвае, і таму грошы, якія вернікі даюць на цэрквы і духавенству пры розных нагодах, ідуць для ўтрыманьня сьвятыняў, духавенства і герархіі. Некаторыя адведвальнікі СССР цьвердзяць, што даткі вернікаў для царквы такія шчодрыя, што цяпер "Царква матарыяльна сабе нястарае і духавенства можа жыць добра"[45]. Праўдзівасьць гэтых вестак залежыць ад уважлівасьці назіраньня аглядальнікаў, нажаль, у дадзеным выпадку аглядальнікі пратэстанты, ня ведаючыя жыцьця Праваслаўнае Царквы і рэлігійных звычаяў расейскага народу, апісваюць свае ўражаньні лішне павярхоўна.

Ведама, што ў часе вайны, пад уражаньнем адкрываньня доўгі час зачыненых сьвятыняў ахвяры вернікаў для царквы запраўды былі больш шчодрыя. Да таго і грошы ў той час цаніліся ня высока. дык на заклік Маскоўскага Патрыярха была назьбірана аграмадная сума для закупленьня танкавае калоны для чырвонае арміі. Але на гэтую мэту складалі ахвяры ня толькі вернікі - аб гэтых ахвярах савецкая прапаганда трубіла на ўвесь сьвет, як аб незьбітым доказе прыязных дачыненьняў між Царквою і савецкаю ўладаю.

Пасьля вайны, калі ўстабілізавалася праўнае палажэньне рэлігійных згуртаваньняў, мусіла ўстабілізавацца так-жа і матарыяльнае палажэньне. Новы статут Расейскае Праваслаўнае Царквы зьвяртае шмат увагі на вядзеньне касавых кнігаў і на кантролю. Гэта значыць, што ўтрыманьне парахвіяў ляжыць на верніках, і толькі там могуць быць парахвіі, дзе ахвярнасьць верніка можа ўтрымаць царкву і сьвятара зь сям'ёю. З гэтага гледзішча назіраньні заграніччых аглядальнікаў могуць быць зусім праўдзівыя. Але калі глыбей і ўважней глянуць у пытаньне матарыяльнага палажэньня Расейскае Праваслаўнае Царквы і асабліва яе герархіі, дык яно адразу скамплікуецца. На бачынах "Журн.Москв.Патр." можна часта стрэнуць зацемкі аб дарагіх узнагародах залатымі крыжамі і пангагіямі сьвятароў і архірэяў, аб багатых дарунках

Маскоўскага Патрыярха для розных царкоўных дэлегацыяў. Хіба-ж не патрэба лішняга высьненьня, што такое багацьце Маскоўскага Патрыярха не паходзіць із зборкаў з царкоўнае тацы, але хутчэй з савецкае дзяржаўнае касы. Экзархі Маскоўскага Патрыярха заграніцай і ўсё іхнае духавенства атрымоўваюць афіцыяльна запамогу ад Маскоўскага Патрыярха. Тут ужо зусім ясна, адкуль ідуць грошы, бо іх найчасьцей выплачваюць савецкія кансуляты. Аднак навонкі так у самым СССР, як і заграніцай герархі Маскоўскага Патрыярха атрымоўваюць свае пэнсіі ад Патрыярха, а адкуль ён бярэ грошы, ніякі кантроль выявіць ня можа, бо афіцыяльна кажная парахвія забавязана высылаць частку даходаў на ўтрыманьне герархіі і духоўных школаў.

Паводля непацьверджаных вестак, якія апублікаваў афіцыяльны часапіс Грэцкае Праваслаўнае Царквы, вышыня пэнсіяў савецкіх праваслаўных герархаў вельмі вялікая[46]: патрыярх месячна атрымоўвае 50.000 руб., мітрапаліт - 30.000 руб., архіяпіскап - 20.000 р., япіскап - 12.000 р., сьвятар - ад 4.000 да 5.000 руб.

Часапіс не падае крыніцы адкуль ён узяў гэтыя дадзеныя, аднак зь некаторых зацемак на бачынах "Журн.Моск.Патр." можна знайсьці довады, што гэтыя дадзеныя вельмі праўдападобныя. У загадзе Маскоўскага Патрыярха аб звальненьні на пакой Зах.-Эўрапэйскага Экзарха мітр. Сарафіма /Лук'янава/ зазначаецца, што яму "назначаецца пэнсія ў разьмеры 10.000 руб. у месяц"[47]. Пэнсія, як бачым, значна меншая ад правячага мітрапаліта, але на пакоі звычайна пэнсіі паводля савецкае сыстэмы плацяцца значна меншыя, як на працы, а ў дадзеным выпадку відавочна пэнсія была назначана меншая ад тых, якія плацяцца мітрапалітам на пакоі, таму і азначана яе вышыня. А прычыны да зьменшаньня былі вельмі паважныя - няпослух Маскоўскаму Патрыярхату. Зазначым, што гэта адзіны выпадак, калі на бачынах маскоўскага часапісу падавалася вышыня пэнсіі.

Наагул пэнсіі для непрацуючага духавенства і для ўдоваў па сьвятарох былі невялікія і бадай што навет нездавальняючыя, бо ў 1954 г. іх "значна павольшана"[48], але не зазначана, на колькі.

Адносна матарыяльнага палажэньня Расейскае Царквы не малое значэньне мае сьветчаньне армянскага айца езуіта Пятра Аляджыяні, які нядаўна вярнуўся з СССР і апавядае, што там "афіцыяльна пат-

рыяршая Расейская Царква ад вернікаў мае вельмі малое падтрыманьне"[49].

## ІУ. Іншыя веравызнаньні

Рэлігійная рознастайнасьць насельніцтва СССР

Да кастрычніцкае рэвалюцыі ў Расейскай імпэрыі былі вернікі ўсіх большых веравызнаньняў, за выняткам гіндуізму, і былі такжа шматлікія сэкты. Большая частка зь іх прадаўжае існаваць, прынамся афіцыяльна, да гэтага часу. У 1945 г. на абшары СССР былі залегалізаваныя такія веравызнаньні: Праваслаўная Царква, Праваслаўная Украінская Царква, Грузінская Царква, раскольнікі, стараабрадцы, Армяне монфызіты, Каталіцкая Царква, пратэстанты, пярэхрысты, беспапоўцы /памаранцы, філіпаўцы, тэадозіяне/, баптыстыя, эвангелістыя, мэноніты, адвентыстыя, неканформістыя /пурытане/, мэтадыстыя, пяцідзесятнікі, малакане, ягвістыя, хлысты, новаізраэліты, скакуны, штундыстыя, талстоўцы, малеванцы, фёдараўцы, магомэтане /суньніты і шыіты/, бэгоістыя, ізмаільцяне, юдзі, буддысты, лямаісты, шаманісты і інш.[50]. У гэтым сьпісе апушчаны абнаўленцы, бо яны самазьліквідаваліся. Апрача вышэй пералічаных веравызнаньняў, да 1939 г. на абшары СССР існавала некалькі незалегалізаваных сэктаў выразна супрацьдзяржаўнага характару, як: чорнахрыстоўцы, маўчальнікі, апокаліпцікі, астрыжнікі, крэставацікі і групы крайняга характару з сэктаў фдараўцаў і вазьнясенцаў[51] - зьявіліся яны пад уплывам жорсткасьцяў савецкае ўлады.

Паколькі кажнае зь веравызнаньняў мае свае арганізацыйныя, дысцыплінарныя і інш. асаблівасьці, дык і дачыненьні савецкае ўлады да кажнага зь веравызнаньняў выяўляюцца ў розных формах, хоць і базуюцца на адных і тых самых прынцыпах. Найбольш вымоўным выявам розьніцы дачыненьняў да паасобных веравызнаньняў ёсьць упрывілеяванае вырозьненьне Расейскае Праваслаўнае Царквы, аб чым была ўжо гутарка ў васобным разьдзеле. Тады як для Расейскае Царквы бальшавікі стварылі ў 1942 г. спэцыяльны Савет, дык для ўсіх іншых веравызнаньняў была створана аналягічная ўстанова толькі ў 1944 г. - г.зв. Савет па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў Саюзу СССР.

Аб дзейнасьці гэтага Савету маем вельмі і вельмі мала вестак. Праўда, гэтым самым няхочучы выяўляецца факт, што ягоная дзейнасьць не належыць да таго сорту, якою можа пахваліцца савецкая прапаганда.

Каталіцкая Царква

Дачыненьні савецкае ўлады да Каталіцкае Царквы ўвесь час азначаюцца крайняю варожасьцю, і пасьля 1942 г. не адбылося ніякага палепшаньня. Наадварот, можна гаварыць аб значным пагоршаньні.

Ува ўсіх савецкіх выданьнях агульнага ідэялягічнага характару, дзе толькі ўспамінаецца каталіцызм, абавязкава дадаюцца заўвагі варожага характару. Вось некалькі характэрных выславаў аб каталіцызьме з другога выданьня Энцыкляпэдыі: "Ватыкан - рэзыдэнцыя галавы Каталіцкае Царквы - папы рымскага, адзін з галоўных цэнтраў міжнароднае рэакцыі і цемрашальства... Ненавісьць да дэмакратыі і камунізму, да СССР і краін народнае дэмакратыі вызначаюць усю дзейнасьць Ватыкану - саюзьніка і прылады самых агрэсыўных імпэрыялістычных сілаў"[52]. "Каталіцызм - выступаў як самы злосны вораг Вялікае кастрычніцкае рэвалюцыі... Арганізацыі Каталіцкае Царквы зьяўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі змоваў амэрыканскіх імпэрыялістых супраць СССР і краінаў народнае дэмакратыі"[53]. "Місіянэрства - ... пасьля другое сусьветнае вайны 1939-45 місіянэрская дзейнасьць Ватыкану і вялікае бальшыні пратэстанцкіх місіянэраў падпарадкаваная галоўным чынам амэрыканскаму імпэрыялізму"[54].

Бязумоўна, варожасьць бальшавікоў да каталіцызму мусіць мець сваё глыбокае абаснаваньне. Не ўваходзячы ў падрабязную аналізу ўсіх тых разьбежнасьцяў, якія выклікаюць такую войструю варожасьць бальшавізму да каталіцызму, варта зьвярнуць увагу прынамся на прынцыпіяльныя разьбежнасьці ідэялягічнага й практычнага характару.

У васнове сьветагляду бальшавікоў-камуністых ляжыць матарыялізм, а палітычны лад мае форму найдалей пасуненага таталітарызму, які хоча стацца поўным і непадзельным валадаром чалавека. Для людзкое індывідуальнасьці бальшавізм не пакідае месца. Для бальшавікоў чалавек - гэта дробная матарыяльная істота, якую ўслаўляюць пастолькі, паколькі яна карысная для грамадзтва і паколькі зь яе

можна выпампаваць штоколечы для ўмацаваньня бальшавіцкага ладу. Свой сьветагляд бальшавікі называюць найбольш навуковым і найбольш прагрэсыўным, хоць іхняя навука ёсьць аднэю з плыняў, якая была модная сто гадоў таму назад, і тым самым сяньня зьяўляецца ня толькі што самаю адсталаю, але ў сьвятле навейшых навуковых адкрыцьцяў проста недарэчнасьцю. З гэтага гледзішча Каталіцкая Царква зь яе дакладна азначанымі высокімі духовымі ідэялямі для кажнага чалавека і для ўсяго людзтва, зь яе імкненьнем задаволіць усе патрэбы чалавека, і і матарыяльна-цялесныя і духовыя, зь яе нязьлічанымі навуковымі ўстановамі - бязумоўна стаіць у поўнай супярэчнасьці да бальшавізму.

З доўгагадовае практыкі агульна ведама, што найбольш спрыяючае поле для пашырэньня бальшавіцкіх уплываў ёсьць там, дзе пануе бязладзьдзе, маральны расклад, сацыяльная несправядлівасьць, бядота - і вось супраць гэтых бічоў грамадзкага жыцьця Каталіцкая Царква вядзе становчае змаганьне і хоць не заўсёды можа пахваліцца належнымі посьпехамі, але ўжо сваімі стараньнямі паважна крыжуе пляны пашырэньня камунізму.

Тэарэтычна некаторыя іншыя веравызнаньні сваею дзейнасьцю могуць быць нямен няпрыемнымі для бальшавізму, чым Каталіцкая Царква, але ў практыцы камуністыя лягчэй могуць паралізаваць дзейнасьць іншых веравызнаньняў. У СССР бальшавікі змаглі правесьці ў кіраўніцтва іншых веравызнаньняў адданых сабе людзей, а навет пэўную колькасьць сваіх агентаў, тады як у кіраўніцтве Каталіцкае Царквы ім не ўдалося правесьці на даўжэйшы час сваіх агентаў навет у рады сьвятароў, дзякуючы сцэнтралізаванаму кіраўніцтву Каталіцкае Царквы і дзякуючы ўстаноўленай дысцыпліне жыцьця сьвятарскага стану. Праўда, вынняткі былі, але такія кароткатрывалыя, іх так хутка выяўлялі, што ўканцы бальшавікі абʼявілі каталіцкае сьвятарства "замкнёнаю кастаю"[55].

У краінах савецкіх уплываў, або як іх бальшавікі называюць, у краінах народных дэмакратыяў, яшчэ і цяпер вядуцца ўзмоцненыя стараньні ўцягнуць сьвятароў у прадзяржаўную і пракамуністычную арганізацыю так званых прагрэсыўных сьвятароў патрыётаў і супрацьставіць гэтую арганізацыю каталіцкай герархіі. Аднак з таго, як адносяцца вернікі да гэтых "сьвятароў патрыётаў", відаць, што гэта паўтарэньне гісторыі абнаўленства і жывацаркоўнікаў

дык і вынік яго хіба-ж ня будзе іншы.

Дзякуючы сваёй арганізацыі духовага жыцьця Каталіцкая Царква мае магчымасьць захаваць у душы чалавека, - пад умовай, што ён гэткае жыцьцё хоць мінімальна практыкуе, - непранікальны для таталітарнага ладу куток свабоды. Гэта і іншыя шматлікія прычыны прычыніліся да таго, што бальшавікі прызналі каталіцызм сваім ворагам №1, павялі супраць яго наступ на жыцьцё і на сьмерць. У антырэлігійнай бальшавіцкай літаратуры, якая зьявілася пасьля 1945 г., большая частка кнігаў, брашураў і часапісных артыкулаў ськіваваная выключна супраць Каталіцкае Царквы[56]. З гэтага гледзішча актыўна дапамагаюць бальшавіком герархі Маскоўскае Патрыярхіі. Амаль у кажным нумары часапісу "Журн. Моск. Патриархии" публікуюцца супрацькаталіцкія артыкулы. Яшчэ трэба зазначыць, што каталіцызм у Расеі заўсёды лічыўся чужым веравызнаньнем, бо каталікоў Расейцаў да 1917 г. ў Расеі ня было і не магло быць дзеля срогае забароны Расейцам пераходзіць з праваслаўя ў іншыя веравызнаньні.

Расьсяленьне каталіцкага жыхарства на абшары СССР вельмі рознае, ад 0 да 87% на 100 чалавек. Такая вялікая розьніца гусьціні каталіцкага жыхарства абумоўлівае розную тактыку да каталіцызму ў паасобных краінах.

Найбольш ваяўніча бальшавікі настроены супраць Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду. Дзьве прычыны абумоўліваюць такое становішча. Па-першае, усходнякаталіцкая Царква мае віртуальную загрозу супраць Расейскае Праваслаўнае Царквы. Падсавецкія рэлігійныя дзеячы кажуць, што "Вунія ёсьць абвешчаньнем рэлігійнае вайны ўсяму праваслаўнаму сьвету"[57]. Па-другое, і гэта найважнейшае, усходні каталіцызм "мае на мэце разарваць рэлігійныя сувязі ўкраінскіх і беларускіх земляў з Масквою"[58]. Дзеля гэтага цяпер, калі дынамічны імпэрыялізм дамінуе ў бальшавіцкай палітыцы, бальшавікі выступілі з усёю жорсткасьцю свайго рэжыму на ўсім абшары свае ўлады і на абшары краінаў савецкага ўплыву супраць каталіцызму ўсходняга абраду, прыкрываючы свой наступ плашчам Праваслаўнае Царквы.

На працягу 5-і гадоў бальшавікі зьнішчылі ўсю ўсходнякаталіцкую герархію, а вернікаў сілкам пазаганялі ў праваслаўе, інсцэнізуючы пры гэтым розныя "сабоpы ўзьяднаньня" быццам выявы дабра-

вольнага прыступленьня да праваслаўя: 8-10.III.1946 г. у Львове /Украіна/, 21.X.1948 г. у Альба-Юлія /Румынія/, 28.УIII.1949 г. у Мукачэве /Падкарпацкая Украіна/, 28.IУ.1950 г. у Чэхаславаччыне. На Беларусі і Баўгарыі, дзе было мала ўсходнякаталіцкіх парахвіяў, зьнішчана іх бязь ніякіх фармальнасьцяў. У Кітаю ўсе айцы ўсходнякаталіцкае Місіі ў Харбіне былі арыштаваныя і вывезеныя перш у прыгранічны канцэнтрацыйны лягер, а потым на Салоўкі. Да гэтага часу толькі ў Мадзяршчыне фармальна ня зьліквідаваны каталіцызм ўсходняга абраду, і гэта магчыма толькі дзеля таго, што адзіная праваслаўная благачынія ў Мадзяршчыне ўсё яшчэ знайходзіцца ў стадыі арганізацыйных экспэрымэнтаў. Коратка кажучы, Каталіцкая Царква ўсходняга абраду на ўсім абшары СССР зьнішчана да званьня. Але што вартае асаблівае ўвагі, дык гэта стараньні бальшавікоў стварыць на ўзор Усходнякаталіцкае Царквы якуюсь лацінска-праваслаўную царкву пры Маскоўскай Патрыярхіі, маючы да гэтага як пачатак францускую праваслаўную парахвію лацінскага абраду і гэткі-ж манастыр у Парыжы, якія пасьля заканчэньня другое сусьветнае вайны прызналі над сабою юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярха. Былі зробленыя шматлікія стараньні перацягнуць на праваслаўе некаторых каталіцкіх лацінскіх сьвятароў у СССР. Аб адным з такіх выпадкаў паведамляе а. Мікалай з Адэсы. Яму й ягонаму супрацоўніку бальшавікі абяцалі даць супакой пад умоваю, што яны прыймуць праваслаўе[59], аднак ніхто із сьвятароў у СССР на такую прапанову не згадзіўся, і гэта было аднэй прычынай больш да абазьленьня бальшавікоў супраць каталіцызму.

Палажэньне Каталіцкае Царквы лацінскага абраду мала чым лепшае; устанаўляючы балянс 38-гадовага існаваньня Каталіцкае Царквы пад савецкім рэжымам, прыходзіцца запісваць толькі пазыцыі на баку стратаў, а на баку таго, што яшчэ асталося, толькі невялічкія астаткі паасобных парахвіяў, і то толькі ў некаторых краінах.

На абшары Расеі ў 1920 г. было каля паўтара мільёна каталікоў, але, як было зазначана перш, усе яны былі нерасейцы. Працантовы склад каталіцкага насельніцтва Расеі падаць вельмі цяжка, бо да гэтага часу ў афіцыяльных крыніцах, калі падаваліся якія дадзеныя, дык яны датычылі ўсяе Магілёўскае мітраполіі, што ахоплівала ўсю Беларусь, усю Расею разам зь Сібірам, Вялікую

Украіну і Каўказ. Стан каталіцызму ў кажнай з гэтых краінаў значна розьніўся між сабою, таму аб кажнай зь іх неабходна гаварыць асобна. І вось у Расеі каталікамі былі: Палякі, Беларусы, Летувісы, Латышы, Немцы і Французы. Толькі ад 1917 г. заіснавалі ў Петраградзе і Маскве невялікія групы Расейцаў каталікоў усходняга абраду.

Каталіцкая герархія ў Расеі пасьля рэарганізацыі ў 1925 г. мела 4 апостальскія Адміністратуры /Масква, Ленінград, Казань і Уладзівасток/ і Экзархат усх. абраду ў Маскве. Усіх герархаў на гэтых становішчах бальшавікі паарыштоўвалі і або панішчылі ў канцэнтрацыйных лягерах, або павысылалі заграніцу яшчэ перад другою сусьветнаю вайною, так што пасьля гэтае вайны ўжо ня было чаго больш нішчыць. Яшчэ аставаліся толькі тры каталіцкія парахвіі на ўсю Расею: у Маскве, Ленінградзе і Адэсе. Зь іх цяпер пакінулі толькі адну ў Маскве пры касьцеле сьв. Людовіка.

Былі аднак весткі, што ў выніку масавых дэпартацыяў падчас калектывізацыі Летувы, Латвіі і Зах. Беларусі ў 1948 г. былі зьявіліся ў Сібіры некалькі скупішчаў дэпартаваных каталікоў і быццам там дазволена летувіскім сьвятаром заснаваць некалькі каталіцкіх парахвіяў, але спраўдзіць гэтыя весткі няма магчымасьці. У савецкіх крыніцах няма ані запярэчаньня, ані пацьверджаньня гэтага факту.

На Беларусі, на ўсім яе этнаграфічным абшары, дзе жыве каля 15 мільёнаў людзей, каталіцкае насельніцтва складае 17,7%, у гэтым ліку каля 2% Палякаў, а рэшта Беларусы. Адміністрацыйны падзел Каталіцкае Царквы на гэтым абшары насіў на сабе сьляды цяжкага мінулага Беларусі; было дзьве мітраполіі: у Магілёве і Вільні, і ўсяго дзьве дыяцэзіі: у Менску і Пінску. У 1940 г. быў заснаваны Беларускі Усх.-Каталіцкі Экзархат у Альбэртыне - усе гэтыя пасады сяньня пустуюць. Да 1939 г. у Зах. Беларусі было дзьве духоўныя Сэмінарыі, праўда абедзьве польскія, - абедзьве яны закрытыя. Зачынены так-жа ўсе мужчынскія й жаночыя манастыры. Яшчэ толькі ў Заходняй Беларусі асталося некалькі парахвіяў, якія абслугоўваюць старэйшыя векам сьвятары; аб іхным жыцьці, дзейнасьці і колькасьці няма ніякіх вестак.

У нішчэньні каталіцызму на Беларусі бальшавікі мелі спрыяючыя ім абставіны. Да 1917 г. рэлігійнае жыцьцё было моцна споль-

шчана так, што Каталіцкая Царква папулярна звалася "польскаю верою" і шматлікім арыштаваным сьвятаром найчасьцей прышпільвалася латка польскіх шпіёнаў. Калі пасьля другое сусьветнае вайны ў 1946-47 гадох Польшча мела цяжкасьці ў калянізацыі новапрылучаных земляў, дык тады каля паўмільёна Беларусаў каталікоў дабравольна запісалася Палякамі і пераехала ў Польшчу, тым самым ліквідуючы на Беларусі паважную колькасьць каталіцкіх парахвіяў.

Супраць тых нямногіх каталіцкіх сьвятароў, якія яшчэ сяньня асталіся на Беларусі, вядзецца ўвесь час страшэнна варожая кампанія. Малады пісьменьнік, Янка Брыль у кнізе, што атрымала сталінскую прэмію, касьцёл называе "гняздом груганоў", а да сьвятароў палае такою нянавісьцю, што яму, відаць, не хватае слоў, каб выказаць усю сваю злосьць: "рукі... у ксяндзоў больш як ува ўсіх у крыві. Была жывучай гадзіна - жывучай пакуль што і застаецца. Гэтыя шкодзяць і будуць нам шкодзіць да скону свайго"[60]. Пры тым, на довад слушнасьці свае варожасьці да каталіцкага духавенства, паказвае як брат усходнякаталіцкага сьвятара ўдзельнічаў у супрацьбальшавіцкім партызанскім адзьдзеле[61]. Іншы малады пісьменьнік А. Чарнушэвіч у апавяданьні "Суседзі" паказвае каталіцкага сьвятара, які перахоўвае партызана-парашутыстага[62].

З савецкае прэсы магчыма даведацца, што ў тых ваколіцах, дзе яшчэ асталіся незамкнёныя каталіцкія сьвятыні, іх наведваюць ня толькі старэйшыя, але і моладзь[63], і гэты факт моцна не падабаецца камуністым. Найгорш аднак іх злуе, што навет "многія студэнты Гродзенскага сельска-гаспадарскага Інстытуту слаба ўяўляюць рэакцыйную сутнасьць рэлігіі, асабліва Каталіцкае Царквы і яе цэнтру - Ватыкану, як прамое агентуры амэрыканскага імпэрыялізму"[64]. Такая прапаганда ў савецкіх абставінах нічога добрага не варожыць.

На Украіне, падобна як і ў Расеі, вернікі Каталіцкае Царквы лацінскага абраду былі іншародцамі, гэта значыць неўкраінцамі, але затое вернікі Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду былі найбольш сьведамаю часткаю ўкраінскага народу і навет самая Царква для іх сталася нацыянальнаю Царквою. Уся герархія як аднае, так і другое Царквы сяньня зьліквідаваная. Дыяцэзіі лацінскага аб-

раду ў Львове, Луцку, Станіслававе, Каменец-Падольску, Жытаміры, Тырашполі і Харкаве, а таксама ўсходнія дыяцэзіі ў Львове, Станіслававе і Пярэмышлі - пустуюць. Усе духоўныя сэмінарыі і Духоўная Акадэмія ў Львове зачынены. Манастыры так лацінскія, як і ўсходнія ўсе пазачыняныя. Большая частка духавенства ўсходняга абраду з агульнага ліку 3.470 сьвятароў, якія адмовіліся перайсьці на праваслаўе, арыштованая[65]. Усе ўсходнякаталіцкія парахвіі /3.040/ сілком прылучаныя да Праваслаўнае Расейскае Царквы. Яшчэ толькі ў некаторых большых гарадох Заходняе Украіны, дзе асталіся Палякі, існуюць каталіцкія парахвіі лацінскага абраду.

У Летуве з калішніх 9 каталіцкіх герархаў сяньня на свабодзе ў самой Летуве астаўся толькі адзін 80-гадовы Панявескі біскуп Казімер Палтаракас. Аб іншых біскупах ведама, што адзін быў засуджаны на сьмерць, трох вывезена ў ссылку, а чатырох знайходзяцца на эміграцыі. З калішніх 1.600 сьвятароў у 1948 г. на свабодзе аставалася 380, а цяпер бадай што менш сотні, і гэта для 2,9 мільёнаў народу, які ў 87% каталіцкі. Здаецца, што гэткае жудаснае фізычнае вынішчэньне ёсьць вялікаю перашкодаю для савецкае прапаганды, і дзеля гэтага ў сакавіку 1954 году летувіская камуністычная прэса апублікавала "пастырскі ліст" біскупа Палтаракаса, у якім, між іншым, кажацца, што ў Летуве ёсьць адчынена 688 касьцёлаў і ў іх працуе 741 сьвятароў, а ў Ковенскай Духоўнай Сэмінарыі вучацца 74 клерыкі. Аднак мова гэтага "пастырскага ліста" і ягоны тон прапаганды, як правільна заўважыла Ватыканская газэта "Osservatore Romano", кажуць сумлявацца ў ягонай аўтэнтычнасьці. Праўдаю ёсьць, што ў Коўне яшчэ існуе да гэтага часу каталіцкая Духоўная Сэмінарыя, але з абмежаваным лікам месцаў. Сёлета на пачатку школьнага году там было ўсяго 52 клерыкаў. Пры гэтым савецкая ўлада робіць ім розныя перашкоды, адрываючы ад навукі. Прыкладам сёлета аж 25 зь іх было паклікана на ваенную службу. А трэба зазначыць, што гэта адзіная каталіцкая духоўная сэмінарыя ў СССР.

Зусім нядаўна ТАСС паведаміў, што 11 верасьня 1955 г. у Панявежы біскуп Палтаракас з дазволу Ватыкану хіратанізаваў двух новых летувіскіх біскупаў - Петраса Назіліса для Тэльшанаў і Юліёніса Стэфановіча для Сьвянцянаў. Аднак нельга прыпушчаць, што

гэта нейкі пачатак зьмены на лепшае ў дачыненьні да каталікоў, бо і далей усе каталіцкія манастыры і ўсе арганізацыі рэлігійнага характару, што былі зьліквідаваныя раней[66], забароненыя.

У Латвіі з калішніх чатырох біскупаў на свабодзе астаўся толькі адзін 79-гадовы арцыбіскуп Рыскі Антон Спрынговіч. Свайго часу бальшавікі падалі ў энцыкляпэдыі толькі яго імя, як "вышэйшага каталіцкага герарха" ў СССР[67]. На 2 мільёны насельніцтва Латвіі каталікі складалі 24,4%, іх абслугоўвала 200 сьвятароў. Сяньня на волі асталося ўсяго каля дзесятка старэйшых векам сьвятароў. Духоўная сэмінарыя ў Рызе і ўсе манастыры зьліквідаваныя.

У Эстоніі на адзін мільён насельніцтва каталікоў было ўсяго 19%. Імі кіраваў Апостальскі Адміністратар Эдвард Профітліх, якога бальшавікі арыштавалі ў 1945 г. Ці яшчэ дзе на абшары Эстоніі асталіся каталіцкія парахвіі, няма ніякіх вестак.

У Армэніі большая частка насельніцтва належыць да Армянскае монофізыцкае Царквы, аб якой будзе гутарка ніжэй, але некаторая частка належыць да Каталіцкае Царквы армянскага абраду. Іхняя доля пад уладаю бальшавікоў такая-ж, як і ўсіх каталікоў усходняга абраду. Але Армяне характарызуюцца тым, што іх шмат жыве ў расьсеяньні і каталіцкія армянскія эпархіі знайходзіліся на неармянскай тэрыторыі: Апостальская Адміністратура ў Тбілі й дыяцэзія ў Львове - абедзьве яны сяньня пустуюць і ўсе парахвіі зьліквідаваныя. У 1945 г. былі весткі, што ў Ленінакане яшчэ існавала каталіцкая армянская парахвія, але пасьля ніякіх вестак аб ёй больш ня было.

Такі ў вагульных рысах абраз Каталіцкае Царквы, праўдзівей яе руінаў на абшары СССР[68]. Адгэтуль відаць, што савецкая ўлада навет для тактычных меркаваньняў ні ў чым не зьмяніла свайго варожага становішча да рэлігіі, як такое. У дачыненьні да Каталіцкае Царквы бязбожная прапаганда была зусім бязьсільнай, і відавочна таму адзіным мэтадам змаганьня супраць каталіцызму аставалася грубая сіла. Зьмяняючы ў 1942 годзе сваю тактыку да Праваслаўнае Царквы і часткава да іншых веравызнаньняў, бальшавікі не адважыліся зьмяніць сваей тактыкі да каталіцызму на абшары СССР.

Грузінская Праваслаўная Царква — На агульны лік 2,3 мільёнаў Грузінаў да Праваслаўнае Царквы належыць каля 2 мільёнаў вернікаў. Характэрнымі азнакамі гэтае царквы ёсьць яе грузінская мова і асобнае кіраўніцтва на чале з патрыярхам-каталікосам. Ад 1917 г. Грузінская Царква была ў нязгодзе з Маскоўскім Патрыярхам, які ня прызнаў абвешчанае тады яе аўтакефаліі. У 1943 г. па загаду савецкіх уладаў тагачасны грузінскі каталікос Калістрат /Цінцадзэ/ пагадзіўся з Маскоўскім Патрыярхам, ці, больш дакладна кажучы, падпарадкаваўся яму. Сяньня Грузінская Царква мае 5 япіскапаў на чале з каталікосам Мэльхісэдэкам /Пхаладзэ/. У нутраным кіраўніцтве яна яшчэ захоўвае сякую такую аўтаномію, захоўвае грузінскую мову ў багаслужэньні і мае сваю Духоўную Сэмінарыю ў Тбілісі, але ў шырэйшай дзейнасьці мусіць ісьці крок у крок за Маскоўскім Патрыярхам.

Старавеы — На абшары СССР захаваліся ўсе групы і сэкты старавераў. Яны загартаваныя трохвяковым змаганьнем за сваё існаваньне і цяпер патрапілі захаваць навет тыя групы, якія не залегалізаваныя савецкаю ўладаю. Параўнаўча найбольшаю карыстаюцца свабодаю старавеы-папоўцы так званае Белакрыніцкае згоды. Яны цяпер маюць належна зарганізаваную герархію: арх. Флявіян /Слёсараў/ Маскоўскі і ўсяе Русі, яп. Веніямін Клінецкі і Новазыбкаўскі, яп. Інокенці Данецкі, Донскі, і Каўкаскі, яп. Іосіф /Мартакоў/ Кішынеўскі, Адэскі і Чарнявецкі.

У гадох 1945-47 ім было дазволена выдаваць царкоўныя календары і адчыніць школу царкоўнага сьпеву. Арганізацыйная аформленасьць папоўцаў не асталася без практычных насьледкаў; да іх пачалі далучацца некаторыя групы беспапоўцаў і беглапапоўцаў, але адначасна пачуліся і "брацкія галасы" з Маскоўскае Патрыярхіі[69]. Магчыма гэта спыніла далейшае аб'яднаньне старавераў вакол Белакрыніцкае герархіі, а тым самым і далейшыя галасы з Маскоўскае Патрыярхіі, бо выявілася, што цяпер, падобна як і за царскіх часоў, некаторыя групы і сэкты старавераў хаваюцца ў глухіх лясох[70].

Армянская Царква — Гэта Царква, якая трымаецца монофізыцкае навукі. Да яе належыць больш мільёна вер-

нікаў у самой Армэніі і каля 100.000 на эміграцыі. Мае добра ўпарадкаваную адміністрацыю зь пяці эпархіяў на чале з патрыярхам-каталікосам усіх Армянаў, які мае сваю рэзыдэнцыю ў Эчміядзіне.

Армяне эмігранты маюць значна больш разьвітую царкоўную герархію, чымся ў самай Армэніі. У Бэйруце ёсьць армянскі монофізыцкі патрыярх, у Істамбуле і Ерузаліме знайходзяцца два аўтаномныя цэнтры і эпархіі ў Баўгарыі, Пэрсіі, Іраку, Румыніі, Заходняй Эўропе, Паўночнай Амэрыцы і Паўдзённай Амэрыцы. Усе яны маюць сувязі з каталікосам у Эчміядзіне і навет матарыяльна падтрымоўваюць яго. Паводля ліку герархічных адзінак заграніцаю, армянскі каталікос мае шмат больш герархаў і бадай што так-жа вернікаў, чымся Маскоўскі Патрыярх. Армянскай Царкве было дазволена ў 1945 г. адчыніць Духоўную Акадэмію, дазволена выдаваць часапіс на армянскай мове "Эчміядзін", дазваляюць так-жа рабіць зьезды ў Эчміядзіне з удзелам прадстаўнікоў армянскае герархіі з Армэніі і з усяго расьсеяньня[71]. Але затое армянскія герархі ў СССР і сам каталікос мусяць удзельнічаць у савецкай прапагандзе "мірных арганізацыяў" і "мірных канфэрэнцыяў", а так-жа з нагоды розных гадавінаў і ўрачыстасьцяў высылаць савецкай уладзе прывітаньні з заявамі аб сваёй ляяльнасьці і прыхільнасьці.

Пратэстанты — У прыбалтыцкіх краінах да 1939 г. былі даволі шматлікія лютаране: 800.000 у Эстоніі й 600.000 у Латвіі. Цяпер аб іхным рэлігійным жыцьці чамусьці вестак дахадзіць у вольны сьвет вельмі мала. Ведама толькі, што яны яшчэ існуюць, маюць сваіх пастараў і былі навет запрашаныя іхныя прадстаўнікі на "Канфэрэнцыю Міру" ў Загорску ў 1952 годзе.

Сэктанты — Калі ў 1927 г. бальшавікі пачалі практыкаваць уводжаньне ў кіраўніцтва рэлігійных згуртаваньняў сваіх агентаў, дык ад таго часу сэкты да пэўнае ступені яны фаварызавалі, бо туды было найлягчэй увесьці камуністычных агентаў і поўнасьцю апанаваць іхнае кіраўніцтва. Цяпер кіраўнікі пятых бальшавіцкіх калёнаў у вольным сьвеце гэтую практыку праводзяць у шматлікіх краінах. Аднак тая лёгкасьць, якая дазваляла бальшавіком бязь лішніх клопатаў правесьці сваіх людзей у кіраўніцтва паасобных сэктаў, дазваляла так-жа ўвайходзіць ту-

ды людзям, якія ня зусім адказвалі савецкім плянам, і гэта дзеялася міма ўважнага нагляду агентаў. Каб мацней трымаць кіраўніцтва найбольш распаўсюджаных сэктаў у сваіх руках, бальшавікі зрабілі паважны націск у кірунку цэнтралізацыі кіраўніцтва сэктаў. У 1944 г. аб'ядналіся баптысты, эвангельскія хрысьціяне і хрысьціяне эвангельскае веры /або іначай пяцідзесятнікі/, утвараючы "Царкву эвангельскіх хрысьціян баптыстаў". Разам яна налічвае каля 3-х мільёнаў вернікаў і пры тым выяўляе вельмі вялікую актыўнасьць. Ім было дазволена выдаваць часапіс "Братский Вестник"; на некаторы час выдавецтва было спынена, але ў 1953г. зноў адноўлена.

У бальшавіцкай прэсе можна часта стрэнуць нараканьні на моладзь, якая наведвае дамы малітвы баптыстаў, і нараканьні на рухавую дзейнасьць баптыстаўскіх прапаведнікаў. Відаць, што іхняя дзейнасьць далёка пераходзіць межы, намечаныя савецкім кіраўніцтвам. Праўда, цяпер на абшары СССР створаны асабліва спрыятлівы грунт для сэктанцкае прапаганды, асабліва на вёсках, дзе аддаўна пазачыняныя праваслаўныя цэрквы.

Мэноніты ў СССР налічваюць да 100.000 чалавек у Крыме, на Каўказе, у ваколіцах Самары і невялікія групы параськіданы ў Заходнім Сібіры. Характэрна, што хоць мэноніты залегалізаваныя савецкімі ўладамі і зьяўляюцца параўнаўча шматлікаю сэктаю, аднак ня былі запрашаны на Канфэрэнцыю ў Загорску.

Аб большасьці іншых хрысьціянскіх сэктаў у СССР ведама тольі тое, што яны існуюць і ад некаторых зь іх былі прадстаўнікі на ўспамінанай ужо "Канфэрэнцыі ўсіх Цэркваў і рэлігійных аб'яднаньняў у СССР, прысьвечанай пытаньню абароны міру", што адбылася 9-12.V.1952 г. ў Загорску каля Масквы. Аграмадная бальшыня гэтых сэктаў вядзе сваю рэлігійную дзейнасьць згодна з савецкімі праўнымі прыпісамі, але ёсьць некалькі сэктаў, якія аддаўна пайшлі ў укрыцьцё дзеля свайго выразна супрацьсавецкага характару. Зразумела, што іхных прадстаўнікоў ня было ў Загорску і аб іхняй дзейнасьці няма ніякіх вестак. Аб некаторых забароненых савецкім правам сэктах успамінаюць афіцыяльныя савецкія публікацыі. У Энцыкляпэдыі кажацца, што калісь у СССР былі "пачварныя і супрацьдзяржаўныя сэкты, як скапцы, краснадраконьнікі і інш., за прыналежнасьць да якіх пагражае кара сьмерці".[72]

Юдаізм У сувязі з жыдоўскім нацыянальным пытаньнем на абшары СССР юдаізм прыцягвае да сябе вельмі жывое зацікаўленьне, але міма гэтага вестак аб рэлігійным жыцьці Жыдоў на абшары СССР даходзіць ня шмат.

Да 1939 г. адзін з найважнейшых цэнтраў духоўнага жыцьця Жыдоў знайходзіўся ў невялікім мястэчку ў Зах. Беларусі - Міры. Там была вышэйшая рабінская школа - галоўны эшыбот і там знайходзілася найбольш перапісчыкаў Торы. Наагул на абшары Зах. Беларусі і Зах. Украіны /тады яшчэ пад Польшчай/ іcнавалі шматлікія хэдары. З мамэнтам, калі Зах. Беларусь і Зах. Украіна былі далучаныя да СССР, галоўны эшыбот у Міры адразу быў зачынены, а хэдары пазаменьваныя ў жыдоўскія сямігодкі і дзесяцігодкі, але Жыды самі дзеля рэлігійных меркаваньняў пастараліся іх хутка перамяніць на расейскія школы.

У часе нямецкае акупацыі аграмадная бальшыня Жыдоў на акупаваных абшарах загінула. З калішніх 3.100.000 Жыдоў у СССР асталося ўсяго каля 1.850.000 чалавек[73]. І хутка пасьля сканчэньня вайны праз увесь СССР пракацілася хваля антысэмітызму.

Цяпер у гарадох і мястэчках, якія былі пад акупацыяй Немцаў, Жыдоў вельмі мала, толькі ў большых гарадох іх ёсьць даволі, каб зарганізаваць сваю школу /кагал/ і адчыніць сынагогу. Наагул колькі ёсьць сынагогаў у СССР і колькі рабінаў - вестак няма. Цэнтральнае юдэйскае арганізацыі так-жа няма. Відавочна кажны рабін кіруецца незалежна. На Канфэрэнцыі ў Загорску былі дзьве юдэйскія дэлегацыі: адна з Масквы - рабін С.М. Шліфэр і другая зь Кіява - рабін І.Г. Шэхтман.[74]

Паза малітваю ў сынагогах рабіны ня могуць весьці ніякае іншае дзейнасьці. Абразаньне і рытуальны ўбой забароненыя ад 1927 г., і гэтыя забароны да цяпер не адкліканыя[75].

Іслям Колькасьць вызнаўцаў ісляму на абшары СССР азначаюць ад 20 да 30 мільёнаў. Большая частка зь іх належаць да суньнітаў. З шытаў добра зарганізаваныя дванаццатнікі ўва ўсходнім Каўказе. Ёсьць так-жа прадстаўнікі розных мусульманскіх сэктаў, як нізарыцкія ізмаіліты, пасьлядоўнікі Алі-Ілялі, кізбахі, і багаісты, але афіцыяльна залегалізаваныя толькі суньніты і шыты.

Характэрна, што насупраць цэнтралістычным тэндэнцыям савецкага кіраўніцтва духоўнае кіраўніцтва ісляму ў СССР ня сцэнтралізаванае. Можна дагадвацца, што ў дадзеным выпадку гэта робіцца з мэтаю, каб зьменшыць сьведамасьць колькаснае сілы вызнаўцаў ісляму так у сябе ўнутры, як і заграніцаю.

Для адміністрацыі суньнітаў цяпер існуюць тры цэнтры: 1/ Духоўнае кіраўніцтва музульманаў эўрапэйскае часьці СССР і Сібіру зь сялібаю ў Уфе /Башкірыя/ на чале з муфцім Шакір ібн Шэйк Уд'у-Іслям Хіялетдзінаў. 2/ Духоўнае кіраўніцтва музульманаў цэнтральнае Азіі й Казахстану зь сялібаю ў Ташкенце на чале з муфцім Іхан Бабахан ібн Абд аль-Маджыд - ён мае чатырох віцэстаршыняў для Кіргізіі, Казахстану, Таджыкістану і Туркмэністану. 3/ Духоўнае кіраўніцтва музульманаў Дагэстану і Паўночнага Каўказу зь сялібаю ў Бунайску /Дагэстан/ на чале з муфцім Могамэт Хаджы Хурбаноў.

Шыіты маюць Духоўнае кіраўніцтва музульманаў Транскаўказіі зь сялібаю ў Баку на чале з Шэйкам Алі Задэ Ахунд Ага Джавад Оглы.

Што да колькасьці мэчэтаў і мулаў у СССР верагодных дадзеных няма. У 1942 г. савецкая прэса падавала, што на іхным абшары было 1.312 мэчэтаў з 8.052 музулманскімі служыцелямі культу[76]. Хоць гэтыя лікі што да агульнае колькасьці музулманаў у СССР вельмі малыя, але ў запраўднасьці ёсьць паважныя падставы думаць, што яны шмат перабольшаныя. Паводля больш верагодных вестак у Цэнтральнай Азіі ёсьць толькі каля 300 мэчэтаў, а ў іншых музулманскіх скупішчах існуюць толькі паадзіночныя мэчэты ў большых гарадох.

Для падрыхтоўкі кадраў музулманскага духавенства было дазволена адчыніць адзін мэдрэш. У 1953 г. там было каля сотні студэнтаў. Навука разьлічана на 7 гадоў. Студэнты прыймаюцца ў веку закончаных 28 гадоў. Ташкенцкае Духоўнае кіраўніцтва выдае часапіс паузбэцку і рэлігійныя календары. Ці іншыя Духоўныя кіраўніцтвы маюць якія рэлігійныя выдаўніцтвы, няведама[77].

Афіцыяльна савецкія ўлады запэўніваюць, што яны дазваляюць і навет робяць палёгкі для паломніцтваў у Мэкку на т.зв. ходжы. Праўда, гэтае асьветчаньне супадае з пачаткам узмоцненага савецкага флірту з арабскімі краінамі. Савецкая палітыка да ісляму,

як і да іншых веравызнаньняў, мае на мэце перадусім розныя палітычныя меркаваньні[78].

Буддызм

Асноўную масу буддыстаў у СССР складаюць Бураты /237.000/ і Калмыкі /130.000/ - гэтыя апошнія зьліквідаваныя ў 1945 г. Меншыя групы буддыстаў сустракаюцца ў Тувімцаў, Эвінкаў і Карэйцаў. Аб рэлігійным жыцьці буддыстаў у Савецкім Саюзе мала ведама. Аб іх існаваньні ўспамінаецца ня раз і ў афіцыяльнай савецкай прэсе. Ведама, што сяньня савецкіх буддыстаў ачольвае Гобджы Дормаеў Лобзон Німа. У Энцыклапэдыі кажацца, што "большасьць вызнаўцаў буддызму ў Савецкім Саюзе вызвалілася ад рэлігійных забабонаў", але адразу пасьля гэткае заявы йдзе напад на "рэакцыйныя вярхі буддыйскае царквы" і буддыйскія манастыры[79]. У сувязі з савецкаю палітыкаю шуканьня саюзьнікаў на Далёкім Усходзе і стараньнем зрабіць добрае ўражаньне ў Індыі, пытаньне буддызму ў СССР набірае спэцыяльнае важнасьці і выклікае самазразумелае зацікаўленьне[80], аднак, міма гэтага, весткі з жыцьця буддызму ў Савецкім Саюзе вельмі скупыя.

Менш ведамыя веравызнавальныя групы

Апрача вышэй успомненых веравызнаньняў, на абшары СССР ёсьць яшчэ некалькі, хоць і цікавых, але малаколькасных веравызнаньняў. Аднак іх тут ня будзем разглядаць паасобку, бо гэта не ўвайходзіць у рамы нашае тэмы. Аб гэткіх веравызнаньнях, калі наагул ёсьць якія весткі, дык, хіба, тыя, што яшчэ дзесьці нейкая група існуе, і больш нічога. Навет так добра паінфармаваны цэнтр, як Француская Дакумэнтацыя, у сваёй публікацыі аб рэлігійнай праблеме ў СССР[81], на якую тут часта рабіліся ссылкі, аб шматлікіх сэктах і рэлігійных групах падае толькі агульныя інфармацыйныя весткі зь перад 1939 году. Пасьля 1942 г. аб некаторых групах зьявіліся толькі прыпадковыя ўспаміны ў сувязі з Канфэрэнцыяю веравызнаньняў у Загорску ў 1952 г. Такія ўспаміны нічога новага для абгаворванае тут праблемы не даюць, але сам факт скупасьці і навет поўнае нястачы вестак аб некаторых веравызнавальных групах у СССР трэба прыняць пад увагу, бо ён мае сваю вымову. Нажаль, яго вельмі часта не дацэньваюць у вольным сьвеце і навет у паважнейшых часапісах, у артыкулах, якія маюць

на мэце падаць агульныя інфармацыйныя весткі аб рэлігійным жыцьці ў Савецкім Саюзе, падаюць толькі некалькі слоў аб каталіцызьме і пратэстантызьме, быццам іншых веравызнаньняў у СССР ня было і няма.

## У. Сутнасьць і мэты новай рэлігійнай палітыкі

Апошнім часам шмат шуму нарабіла пастанова ЦК камуністычнае партыі з дня 10.XI.1954 г., падпісаная генэральным сакратаром М.Хрушчовам, "Аб памылках у правядзеньні навукова-атэістычнае прапаганды сярод насельніцтва"[82]. Хоць у аснаўным М. Хрушчоў нічога новага ня кажа, бо выступае толькі супраць адміністратыўных надужыцьцяў у прасьледаваньні рэлігіі і то толькі таму, што гэткія надужыцьці "змацняюць рэлігійныя забабоны", аб чым ужо ня раз гаварылася і навет пісалася ў камуністычных праграмах, каб "дбайліва ўнікаць усякае абразы пачуцьцяў вернікаў, якая вядзе толькі да ўмацаваньня рэлігійнага фанатызму"[83]. У канцы тае пастановы М. Хрушчоў выразна кажа, што "выпраўленьне памылак, дапушчаных у антырэлігійнай прапагандзе, не павінна прывесьці да аслабленьня навукова-атэістычнае прапаганды, якая зьяўляецца істотнаю часткаю камуністычнага выхаваньня працоўных".

Магчыма даць нязьлічаныя цытаты з савецкае цэнтральнае прэсы, якая стаіць на варце "чысьціні" камуністычнае партыйнае лініі, што пакуль існуе камуністычная партыя, яна ня можа быць абыякаю да рэлігіі і будзе заўсёды крайне варожаю да яе. Для прыкладу могуць служыць назовы некаторых нядаўных артыкулаў праграмовага характару: С. Худяков "Важный вопрос относительно научно-атеистической пропаганды"[84], "Научное и религиозное мировоззрение"[85], Ф.Н.Олешук - "Религиозные пережитки и пути их преодоления"[86]. Было некалькі падобных артыкулаў у часапісе "Наука и жизнь" і асабліва шмат у "Литературной газете", "Комсомольской правде" і цэнтральнай камуністычнай газэце "Правда".

Калі-ж міма ўсіх прынцыпіяльных азначэньняў крайне нэгатыўных да рэлігіі ў часе вайны зьмянілася бальшавіцкая тактыка да некаторых веравызнаньняў, дык гэта было своеродным НЭП-ам, абумоўленым тагачасным міжнародным палажэньнем і пры тым было поўнасьцю згодным з цьверджаньнем Леніна, што ў такіх абставінах "бязбожная прапаганда можа стацца лішняю і навет шкоднаю... з

гледзішча запраўднага прагрэсу клясавае барацьбы"[87]. Зьмена тактыкі адбылася тады, калі ў часе вайны яскрава выявіўся поўны правал дагэтулешняга змаганьня з рэлігіяй. Міма аграмаднае бязбожнае літаратуры, міма страшэннае бязбожнае прапаганды, міма жорсткіх адміністрацыйных мерапрыемстваў супраць рэлігіі, народ як быў, так і астаўся веруючым. Спраўдзіўся вельмі трапны сказ аб непахіснасьці народнае рэлігійнасьці бэльгійскага гісторыка ўсходніх рэлігіяў Фр. Кюмона /1868-1947/: "Пабожнасьць народных масаў так непарушная, як і вада глыбіні мора, яе не пацягаюць ані аграюць павярхоўныя плыні"[88].

Аднак сьцьвердзіўшы свае няўдачы, бальшавікі не адступаюць ад намераў узрушыць глыбіні мора, не адступаюць ад сваіх бязбожных плянаў і навет з тактычных меркаваньняў яны нічуць не зьмянілі сваіх дачыненьняў да Каталіцкае Царквы, а так-жа і да тых праваслаўных япіскапаў, якія не пайшлі на кампраміс з сваім сумленьнем. А навет і тыя веравызнаньні, якія быццам карыстаюцца з палёгкаў у выконваньні сваіх багаслужэньняў, у большай або меншай ступені заўсёды адчуваюць на сабе цяжкую руку бязбожнае ўлады.

Ня выракаючыся бязбожнае прапаганды, яны ад яе паўстрымоўваліся ў часе вайны і нейкі час пасьля вайны, але як толькі пачалося крыху наладжвацца мірнае жыцьцё, бязбожная прапаганда зноў стала на дзённым парадку. Але прыкрая практыка казала бальшавіком выпрацаваць новую тактыку, падшукаць новыя кадры і знайсьці новых саюзьнікаў так яўных, як перадусім тайных, дабравольных і недабравольных.

На месцы разьвязанага ў 1942 г. Саюзу ваюючых бязбожнікаў было створанае 7.УII.1947 г. Усесаюзнае Таварыства для пашырэньня палітычных і навуковых ведаў. Тут слова "бязбожнік" ужо не спатыкаецца і ў дзейнасьці Таварыства прапаганда бязбожжа не стаіць на першым месцы, яна вядзецца нібы толькі між іншым. Старшынёю Таварыства быў назначаны прэзыдэнт Акадэміі Навук СССР А.І.Опарын - вось-жа найвышэйшы прадстаўнік навукі. У сябры Таварыства паўпісваны амаль увесь пэрсанал усіх вышэйшых навучальных установаў у СССР. Як орган Таварыства, пачаў выходзіць часапіс "Наука и жизнь", але так-жа характэрна, што ня ў кажным нумары гэтага часапісу публікуюцца артыкулы ваяўнічага

бязбожнага характару. Уканцы 1954 г. было абвешчана, што спачатку 1955 г. мае выходзіць ваяўнічы бязбожны часапіс "Наука и религия", але ў сакавіку 1955 г. павядомлена падпісчыкаў, што часапіс выходзіць ня будзе. І так-жа характэрна, што вялікая частка кнігаў супрацьрэлігійнага характару выходзіць з выдавецтва Акадэміі Навук СССР. Іншыя выдавецтвы, як "Госкульт-просветиздат", "Молодая гвардия", "Всесоюзное общество по распостранению политических и научных знаний" і выдавецтвы саюзных рэспублікаў выдаюць пераважна толькі супрацьрэлігійныя брашуры. Аднак зьмена назову і зьмена фірмы ў супрацьрэлігійнай прапагандзе ні ў чым не зьмяніла яе сутнасьці. Хоць і ўцягнена ў бязбожную работу акадэмікаў, узроўня навейшых савецкіх антырэлігійных выданьняў астаецца заўсёды такая нізкая, што навет савецкая крытыка шматлікія кнігі і брашуры асуджае як нядзарную пісаніну. Для прыкладу можна ўспомніць шырокаразрэклямаваную ў СССР кніжку П.Павёлкіна "Религиозные суеверия и их вред". Яе ў 1954 годзе бальшавікі надумаліся выдаць у нямецкім перакладзе[89], але для нямецкае грамадзкае апініі гэтая кніжка была такім прымітывам, што хутка яе выцягнулі з прадажы. Праўдападобна, што ня лепшае прыняцьце знайходзіць бязбожная літаратура і ў самым СССР, хоць магчыма зусім зь іншых прычынаў. Не дарма "Комсомольская правда" накінулася аднойчы на бібліятэкара, у якога брашуры антырэлігійнага зьместу запалі тоўстым пластам пылу[90].

Сваім галоўным саюзьнікам у антырэлігійнай прапагандзе бальшавікі ўзялі быццам навуку, але фактычна ўзялі толькі сам яе назоў, а не запраўдную навуку. Другім саюзьнікам у сваёй антырэлігійнай дзейнасьці яны зрабілі некаторых служыцеляў культу і некаторыя веравызнаньні, апанаваўшы перш кіраўніцтва гэных веравызнаньняў. Праўда, гэты апошні саюзьнік не заўсёды карысны для бальшавіцкае прапаганды, бо, зрабіўшы некаторыя вызнаньні лаяльнымі да сябе і навет саюзьнікамі, бальшавікі самі, ня хочучы гэтага, зьнішчылі адзін зь вельмі папулярных сваіх аргумэнтаў аб неразрыўнай сувязі рэлігіі з капіталізмам. Дзеля гэтага цяпер сілаю факту галоўны цяжар у бязбожнай прапагандзе звалена на сьпіну навукі.

Па-за тымі дробнымі дазволамі ў рэлігійным жыцьці, аб якіх была гутарка ў папярэдніх разьдзелах, усё іншае, што неразьдзель-

на зьвязанае з рэлігійным жыцьцём і што практыкуецца ўва ўсіх вольных краінах, у Савецкім Саюзе забаронена. У першую чаргу забароненая ўсякая рэлігійная прапаганда. Ані ў казаньнях, ані ў часапісах нельга закранаць аполёгэтычных і філязафічных пытаньняў, нельга адказваць на антырэлігійную прапаганду.

Забароненая ўсякая харытатыўная дзейнасьць ад імя Царквы. Афіцыяльна аб гэтым кажацца:

> "Савецкая дзяржава выходзіць з палажэньня, якое дарэчы абаснаванае і ў навуцы шматлікіх культаў, што справаю царквы зьяўляецца толькі адпраўленьне культаў. Усякага роду прапагандыўная, маралізуючая і ўзгадавальная дзейнасьць /у разьмерах, што выходзяць за межы азначаных рэлігійных грамадаў/ не павінна належаць да Царквы, як аб'еднаньня веруючых".[91]

Забаронена навучаньне рэлігіі дзяцей у веку да 18 гадоў. Карны савецкі кадэкс не зьмяніў свайго § 122 у Гл.4, дзе даслоўна кажацца:

> "Навучаньне рэлігіі ў народных школах і прыватных моладзі, не дайшоўшае да поўналетнасьці, ёсьць каранае турмою да 1 году і больш".

Праўда, у 1947 г. патр. Аляксей асьветчыў, што цяпер за гэткае "праступства" не караюць сьвятароў, але самая забарона астаецца. Забаронены ўсякія рэлігійныя арганізацыі, навет нідзе ня чуваць аб рэлігійных брацтвах і сястрыцтвах. Забаронена ўспамінаць і навет намякаць аб арыштах духавенства.

Ад часу, калі Праваслаўная Царква ў Расеі сталася моцна нацыянальнаю Праваслаўнаю Царквою, паставіла сябе на службу царскае палітыкі і выконвала зусім нярэлігійныя мерапрыемствы цароў і апраўдвала навет царскія злачыны. Сьв. Іосіф Валоцкі выдумаў навет спэцыяльны выслаў для такога апраўданьня: "богопремудроственное коварство государя"[92]. Асабліва ад часоў рэформы цара Пятра I Расейская Праваслаўная Царква была моцна зьвязаная зь сьвецкаю ўладаю. Лішнім было-б пералічаць усе тыя паслугі, якія Расейская Царква на працягу вякоў выконвала на карысьць сьвецкае ўлады, зазначым толькі, што не дарма навет самыя-ж расейскія гісторыкі яе называлі: "апірышчам і інструмантам маскоўскага імпэрыялізму"[93].

Сам назоў Расейская Праваслаўная Царква парасейску "Русская Православная Церковь", які цяпер усюды спапулярызаваны і ў якім

кладзецца цяпер асаблівы націск на расейскасьць, не адказвае праўдзе, бо Расейцы ў гэтай Царкве складаюць толькі 62%, а рэшта гэта Украінцы /26%/, Беларусы /8%/ і меншыя або большыя групы іншых народаў /4%/ як Абхазы, Асеціны, Бураты, Карэйцы, Карэлы, Комі, Мардва, Удмурты, Чувашы, Якуты і інш.

Бальшавіцкая прапаганда накідаецца з моцнаю лаянкаю на каталіцкіх і пратэстанцкіх місіянараў, інкрымінуючы ім нямаведама якія правіны ў іхняй місыйнай дзейнасьці, але за гэткую-ж дзейнасьць расейскіх праваслаўных місіянэраў ня выказвае ніякае наганы, наадварот, з выразным адабрэньнем кажа, што місыйная дзейнасьць Расейскае Праваслаўнае Царквы "адыграла пэўную ролю ў распаўсюджаньні расейскае мовы між нерасейскіх народаў, што мела значэньне для ўмацаваньня сувязяў тых народаў з расейскім народам"[94].

Доўгавяковая залежнасьць Расейскае Праваслаўнае Царквы ад дзяржавы хоць і выклікала часам нараканьні з боку лепшых герархаў, вытварыла моцную традыцыю залежнасьці, якую бальшавікі пастанавілі выкарыстаць.

У часе вайны больш, чымся калі, маскоўскім уладаром было патрэбна ўзмоцніць сваю цэнтралізацыйную сыстэму кіраваньня, і з гэтага гледзішча Маскоўскі Патрыярхат як найбольш надаваўся на карыснага саюзьніка. Да таго ўжо ад даўна патрыяршы пасад знайходзіўся з волі бальшавікоў у руках паслушнага ім чалавека. Якраз у часе вайны, падобна як у часе пасьля кастрычніцкае рэвалюцыі, праявіліся вельмі моцныя тэндэнцыі на Украіне й Беларусі ўнезалежніць сваё рэлігійнае жыцьцё ад Масквы, ствараючы свае аўтакефальныя Праваслаўныя Цэрквы. І гэта былі ня толькі нейкія мімалётныя жаданьні, але паважныя рухі, якія давялі да склікаaction Сабораў. У Грузіі існавала аўтакефальная Царква абвешчаная ў 1917 г., хоць і няпрызнаная Маскоўскім Патрыярхам. Усё гэта былі факты, зь якімі нельга было ня лічыцца.

З доўгагадовае практыкі змаганьня з рэлігіяй бальшавікі маглі пераканацца, што, зьнішчаючы насільна герархію і сьвятароў, гэтым яшчэ ня зьнішчаецца самое рэлігіі. Горш таго, у такім палажэньні ствараецца вельмі прыдатны грунт для дзейнасьці ўтоеных сьвятароў, якія бязумоўна будуць заўсёды варожыя для савецкай улады. Бальшавіцкія парашуцістыя на акупаваных Немцамі абшарах

у 1941-1943 гадох маглі ўбачыць, колькі было перш укрытых праваслаўных сьвятароў, якія павыходзілі з укрыцьця і ладзілі багаслужэньні ў новаадчыненых сьвятынях.

У часе вайны дыплёматычная дзейнасьць бальшавікоў значна ажывілася й пашырылася так у самым Савецкім Саюзе, як асабліва за граніцаю. І для гэтае дзейнасьці Маскоўская Патрыярхія, побач іншых матываў, магла быць важным дэкаратыўным сродкам.

Бальшавіцкія кіраўнікі ўлічылі ўсё гэта і абвесьцілі ў 1942 г. зьмену свае рэлігійнае палітыкі, не зьмяняючы пры тым ані свайго заканадаўства, ані свае праграмы, ані свае Канстытуцыі ў рэлігійных справах.

Згодна з сваёй праграмаю, бальшавікі ўсьцяж марацьаб камуністычнай рэвалюцыі ўва ўсім сьвеце і вядуць адпаведную падрыхтавальную працу. З гэтаю мэтаю пасьля скончэньня вайны былі асабліва зактывізаваныя іхныя пятыя калёны. У гэтых калёнах бальшавіцкія агенты выступаюць ня яўна, але пры помачы падстаўных асобаў. Адна з галінаў працы гэтых калёнаў робіць шмат шуму - гэта - "прапаганда міру". У гэтай прапагандзе Расейскай Праваслаўнай Царкве так у СССР, як і заграніцай даручана браць вельмі актыўны ўдзел. У кажным нумары "Журнала Московской Патриархии" друкуецца некалькі артыкулаў на гэтую тэму і тое-ж робяць усе часапісы, якія выдаюцца ў Эгзархатах Маскоўскага Патрыярха заграніцаю, а таксама і ў аўтакефальных цэрквах у краінах так званых народных дэмакратыяў. Ува ўсіх міжнародных кангрэсах і канфэрэнцыях гэтага прасавецкага "руху міру" ўдзельнічае дэлегацыя ад імя Расейскае Праваслаўнае Царквы на чале зь мітр. Мікалаем Круціцкім. Ягоныя прамовы на гэтых канфэрэнцыях апублікаваныя асобнаю кніжкаю ў расейскай, францускай, ангельскай і нямецкай мовах. У 1952 г. была наладжана Маскоўскім Патрыярхам спэцыяльная "Канфэрэнцыя ўсіх Цэркваў і рэлігійных аб'еднаньняў у СССР прысьвечаная пытаньню абароны міру".

У працах пятых калёнаў заграніцай сьвятары, падлеглыя Маскоўскаму Патрыярху, маюць спэцыяльныя заданьні. І трэба дадаць, што між імі часта пад расаю сьвятара сустракаюцца камуністычныя агенты. У свой час шмат пісалася аб тым, што ў СССР ёсьць спэцыяльныя тайныя школы для ўзгадаваньня агентаў-сьвятароў, але, нажаль, часта запраўдныя факты мяшаліся з буйнаю фантазіяю.

у 1949 г. былі зьявіліся весткі, што ў СССР вышкалена аж 3.000 агентаў і выслана іх як духоўнікаў на Захад[95], але без паданьня якіх-небудзь верагодных довадаў на гэта. Аднак сам факт існаваньня такіх агентаў-сьвятароў не падлягае сумлеву: у Нямеччыне такі агент езьдзіў у 1947 г. зьбіраць сьпісы эміграцтаў, якія жадаюць ехаць у Аргентыну і перадаваў іх савецкай рэпатрыяцыйнай камісіі, у Эгіпце такі агент-мачах працаваў на карысьць Комінформу, такі-ж "манах" кіраваў савецкаю "праваслаўнаю Місіяю" ў Палестыне, а такая-ж "манашка" манастырам каля Ерузаліму. Хоць у падобных выпадках агенты дзейнічаюць магчыма і бязь ведама Маскоўскага Патрыярха, але супрацоўніцтва Патрыярхіі з савецкім урадам шмат дапамагае агентам бяскарна хавацца пад сьвятарскай вопраткай.

Значэньне эміграцыі з Савецкага Саюзу ў справе інфармацыі аб запраўдным палажэньні ў СССР яшчэ да цяпер не дацэньваюць у вольным сьвеце, але затое яе належна цэняць самыя бальшавікі і таму не шкадуюць ніякіх стараньняў і коштаў, каб спаралізаваць дзейнасьць эміграцыі, а навет каб уцягнуць яе ў свае сеткі. У гэтай працы, дзе ня могуць дайсьці савецкія дыплёматы, высылаюцца савецкія сьвятары. У 1945 г. адбылася шырокаведамая місія мітр. Мікалая Круціцкага ў Парыжы і мітр. Еўлогі перадаў ачольваны ім Экзархат Канстантынопальскага Патрыярха ў юрысдыкцыю Маскоўскага Патрыярха, мітр. Серафім /Лук'янаў/ так-жа прызнаў над сабою зьверхнасьць Маскоўскага Патрыярха. У наступным годзе рэпатрыяваліся ў Маскву трох праваслаўных япіскапаў з Чэхаславаччыны. У 1947 г. адбылася няўдалая місія мітр. Грыгорыя /Чукова/ ў З.Ш.А. ў справе так званае Амэрыканскае Мітраполіі. У 1954 г. і праз радыё і праз прасавецкія газэты ў ЗША зьвярнуўся з урачыстым заклікам да беларускае эміграцыі Менскі арх. Піцірым /Сьвірыдаў/.

Але місіі і заклікі гэта здарэньні прынагодныя і мала эфэктоўныя, дзеля гэтага для сыстэматычнае працы між эміграцыяй Маскоўская Патрыярхія стварыла некалькі экзархатаў: 1/ Заходня-Эўрапэйскі на чале зь яп. Мікалаем /Ерэмінам/ - ён мае свае парахвіі ў Ангельшчыне, Аўстрыі, Бэльгіі, Галяндыі, Марокко, Нямеччыне і Францыі; 2/ у ЗША на чале з арх. Барысам. Яму амэрыканскі ўрад адмовіў візу і таму пасад тымчасам пустуе; 3/ Аргентынскі і

Паўдзённа-Амэрыканскі на чале зь яп. Фёдарам /Текучэвым/; 4/ Кітайскі на чале з арх. Віктарам /Сьвяціным/ - ён апякуецца і Расейцамі і праваслаўнымі Кітайцамі.

Лік парахвіяў і вернікаў гэтых экзархатаў вельмі невялікі, затое прапаганду яны вядуць вельмі актыўную, як аб гэтым можа сьветчыць іхняя выдавецкая дзейнасьць. Вось іхняя пэрыядычная прэса: у Ангельшчыне месячнік "Приходской Вестник" ад 1952 г.; у Галяндыі месячнік "Вестник Православия" на шапірографе і "Orthodoxie" пагаляндзку друкам ад 1953 г.; у ЗША месячнік "Единая Церковь"; у Кітаі месячнік "Китайский Благовестник", у Нямеччыне месячнік "Голос Православия" ў гадох 1952/53; у Францыі двухмесячнік "Вестник Русского Западно-Европейского Патриаршего Экзархата" ў 1947 г., а ад 1950 "Хроника жизни Русской Православной Цэркви в Западной Европе" - двухмесячнік рататарнага выданьня.

Яшчэ больш важнай, чымся прапаганда між эміграцыяй, зьяўляецца для бальшавікоў прапаганда між зьверхнікаў цэркваў у вольным сьвеце. І тут Расейскай Праваслаўнай Царкве даручана вельмі паважнае заданьне: здабыць прыхільнасьць для бальшавіцкае палітыкі між усходніх патрыярхаў і пратэстанцкіх кіраўнікоў. Адна за другою езьдзілі з Масквы ўва ўсе куткі сьвету большыя і меншыя дэлегацыі. Распачаў іх сам патр. Аляксей "паломніцтвам" у Сьвятую Зямлю, Сырыю, Лібан і Эгіпт ад 28.У. да 26.УІ. 1945 г. Сьледам за ім у тым-жа годзе ў чэрвені мітр. Мікалай Круціцкі езьдзіў у Лёндан, у кастрычніку мітр. Грыгоры /Чукаў/ езьдзіў у Фінляндыю, а арх. Фоці /Топіро/ адведаў Аўстрыю й Чэхаславаччыну, а меншая дэлегацыя ў тым-жа часе адведвала Нямеччыну, уканцы таго-ж кастрычніка спэцыяльная дэлегацыя накіроўвалася на Далёкі Усход. У далейшым дэлегацыі ад Маскоўскага Патрыярха ў розныя краіны і ўзаемныя дэлегацыі прадстаўнікоў паасобных цэркваў у Маскву становяцца ўсё больш і больш частымі.

Вынікі гэтых адведзінаў былі для бальшавікоў бадай што лепшымі, як яны маглі спадзявацца: Антыёхійскі Патрыярх Аляксандар ІІІ стаўся зусім прасавецкім - ён асабіста двойчы адведаў СССР і пры гэтых нагодах атрымаў шчодрыя падаркі. Моцна прасавецкім стаўся Александрыйскі Патрыярх Хрыстафор ІІ. Ерузалімскі Патрыярх Тыматэй да 1952 г. трымаўся з засьцярогаю да Маскоў-

кага Патрыярха, але, атрымаўшы адтуль багатыя падаркі, згадзіўся здавальняць вымогі Маскоўскага Патрыярха і ў першую чаргу 29.X.1952 г. выдаў пастанову да падуладнага сабе духавенства, каб яно ня мела ніякае лучнасьці з тымі расейскімі духоўнымі, на якіх цяжаць забароны і кары Маскоўскага Патрыярха, гэта значыць з так званым зарубежным расейскім духавенствам.

Пратэстанцкія і зусім сьвецкія загранічныя дэлегацыі, якія атрымоўваюць дазвол або навет і запросіны ад савецкага ўраду адведаць СССР, цяпер так-жа, як правіла, адведваюць Маскоўскага Патрыярха. Гэтае адведваньне Патрыярхату сталася такім частым зьявішчам, што ад 1954 г. "Ж.М.П." на сваіх бачынах завёў спэцыяльную рубрыку: "Иностранные гости в Московской Патриархии", выяўляючы тым самым, што кажныя такія адведзіны ёсьць вадою на млын савецкае прапаганды.

Магчыма, некаторыя абавязкі, якія савецкая ўлада ўзлажыла на плечы Расейскай Праваслаўнай Царквы, гэтая апошняя прыняла толькі пад прымусам, каб гэткай цаною купіць сабе права да існаваньня. Але некаторыя абавязкі відавочна яна прыняла ахвотна і магчыма навет з радасьцю. Такім ёсьць супрацькаталіцкая прапаганда.

Супрацькаталіцкую кампанію Расейская Праваслаўная Царква вядзе ўва ўсіх тых адрэзках жыцьця, дзе ёй дана магчымасьць дзеяньня. На бачынах "Ж.М.П.", пачынаючы ад 1945 г., амаль у кажным нумары публікуюцца або цэлыя супрацькаталіцкія артыкулы, або кароткія прынагодныя супрацькаталіцкія выпады, пры тым карыстаюцца тэрміналёгіяю бальшавіцкіх агітатараў. На так званых "канфэрэнцыях міру" дэлегацыя ад Маскоўскага Патрыярхату, звычайна мітр. Мікалай Круціцкі, заўсёды мусіць памахаць кулаком у бок Ватыкану, як "найгоршага падбухторшчыка вайны".

На зборцы ў чэсьць 500-годзьдзя аўтакефаліі Расейскае Праваслаўнае Царквы, якая адбылася ў Маскве, цэлы дзень 9.VII.1948 г. быў прысьвечаны на супрацькаталіцкія даклады, у якіх прэлегенты паўтаралі на ўсе лады ўсе бальшавіцкія закіды супраць Папы Рымскага і ў канцы дамагліся, каб "праваслаўе арганізавала і ўзмоцніла свой адзіны супрацькаталіцкі фронт"[96].

За супрацькаталіцкія выступы, або як афіцыяльна паведамлялася "за разбор дагматычных няпраўдаў Рыма-Каталіцкае Царквы і вы-

яўленьне палітычных акцыяў Ватыкану"[97], арх. Гермаген /Кожын/ атрымаў доктарскі тытул honoris causae ад Маскоўскае Духоўнае Акадэміі, відавочна, дзеля таго, каб больш заахвоціць да супрацькаталіцкае прапаганды.

Напады на Рым Маскоўская Патрыярхія суправаджвае аднаўленьнем прапаганды расейскае рэлігійна-палітычнае ідэі з XVI ст., коратка сфармуляванае - "Масква - трэйці Рым". Такая прапаганда вельмі дарэчы расейскім камуністым, бо лашчыць іхняе нацыянальнае самалюбства. Не дарма зварот манаха Філафея да цара Васіля III, у якім гаварылася, што "Масква - трэйці Рым, а чацьвёртаму Рыму ня быць", уведзены ў падручнікі гісторыі СССР для савецкіх сярэдніх школаў[98].

У "Журн. Моск. Патр." успаміны аб "Маскве - трэйцім Рыме" сустракаюцца даволі часта ў вуснах так расейскіх сьвятароў, як і розных заграгнічных госьцяў, і ў такой форме, быццам гэтая ідэя ўжо не падлягала ніякаму сумлеву. На зьезьдзе ў Маскве ў 1948 г. баўгарскі мітр. Сьцяпан казаў: "Масква сталася трэйцім Рымам, заняўшы ў вызнаньні Хрыстовае праўды месца першага"[99]. І гэта не якаясь праваслаўная Масква сталася тым "Трэйцім Рымам", але савецкая, камуністычная. А супрацоўнік часапісу ўсклікае: "Ці-ж у нашыя дні белакаменная Масква - сэрца магутнае Савецкае Дзяржавы, не зьяўляецца сьветачам міру і прагрэсу, што зырка асьвячае ўсю нашую плянэту сьвяшчэнным сьцягам для ўсяго перадавога чалавецтва?!"[100].

З Масквы прапаганда "Трэйцяга Рыму" ўжо паволі пачынае прышчэплівацца ў падсавецкіх краінах. Альбанскі дэлегат у 1948 г. пісаў: "Нашае падарожжа пераканала нас у тым, што Расейская Праваслаўная Царква ёсьць і будзе, як і была, крыніцаю праваслаўнае веры ўва ўсім сьвеце"[101].

Прапаганда "Масквы - трэйцяга Рыму" йдзе аднвчасна з бальшавіцкай прапагандай "Масква - сталіца працоўных ўсяго сьвету". Паралельнасьць прапаганды разьлічана на аблягчэньне ўспрыняцьця абодвых клічаў.

Для завяршэньня мрояў аб "Маскве - трэйцім Рыме" неабходнае афіцыяльнае перанясеньне прэрагатываў пяршынства Канстантынопальскага праваслаўнага патрыярха на Маскоўскага, але гэта можа зрабіць толькі Ўсеправаслаўны Сабор. У Маскве ўжо даўно вядуцца ме-

рапрыемствы ў гэтым кірунку. Першым этапам у гэтым кірунку было здабыцьцё сымпатыяў усходніх патрыярхаў. Цяпер на перашкодзе стаіць Канстанстынопальскі Патрыярх, бо ад яго залежыць склікаsuccessfully ньне Сабору. Абыйсьці гэтую перашкоду няма магчымасьці, дык маскоўскія дзеячы выбралі іншую тактыку: падкапаць аўтарытэт Канстантынопальскага Патрыярха. Для першае атакі была выбраная галіна кананічнага права што да праваслаўнае дыяспары /расьсеяньня/. Распачаў дыскусію ў гэтым кірунку прафэсар кананічнага права С. Троіцкі, стараючыся як найбольш звузіць абсяг юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха над нягрэцкай дыяспарай[102]. Артыкул не астаўся без адказу[103]. Пакуль што дыскусія незакончаная, але, не чакаючы на яе заканчэньне і на вынікі, Маскоўскі Патрыярх збольшвае, як толькі можа, колькасьць прыхільных і адданых сабе галасоў у будучым Саборы, ствараючы новыя царкоўныя адзінкі: 28.УІ.1948 г. ператварыў на савецкі лад Польскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, 8.ХІІ.1951 г. утварыў Праваслаўную аўтакефальную Чэхаславацкую Царкву, 10.У.1953 г. быў адноўлены Баўгарскі Патрыярхат.

У справе скліканьня ўсеправаслаўнага Сабору Маскоўскія кіраўнікі выкарыстоўваюць тую абставіну, што гэтая справа ўжо ня раз дыскутавалася і навет рабіліся некаторыя канкрэтныя мерапрыемствы, зьвязаныя зь перадсаборнымі нарадамі. Цяпер маскоўскія кіраўнікі актуалізуюць справу скліканьня далейшых перадсаборных нарадаў, але дамагаюцца ад Канстантынопальскага Патрыярха папярэдняга прызнаньня ўсіх новаўтварэньняў Маскоўскага Патрыярхату[104]. Саму-ж ініцыятыву ў скліканьні перадсаборных нарадаў відавочна плянуюць перадаць прасавецка настроенаму Александрыйскаму Патрыярху, як аб гэтым можна дагадвацца із слоў патр. Аляксея да Канстантынопальскага Патрыярха:

> "Лічым брацкім абавязкам паведаміць Вашу Сьвятасьць, што адначасна з Вашым Пасланьнем Мы атрымалі і сяньня вывучаем Пасланьне Блажэньнейшага Хрыстафора Папы і Патрыярха Александрыйскага і ўсяе Афрыкі так-жа ў справе падрыхтоўкі і скліканьня Перадсаборных Нарадаў, з зацемкаю аб ягоным намеры пісаць аб гэтым і Вашай Сьвятасьці" 105.

Пакуль трывае дыскусія ды йдзе перапіска між патрыярхамі, у Маскве ўжо робяцца быццам рэпэтыцыі да ўсеправаслаўнага Сабору. З нагоды выбараў патр. Сяргея, патр. Аляксея і сьвяткаваньня

500-ых угодкаў аўтакефаліі Расейскае Праваслаўнае Царквы, рабіліся гучныя зьезды прадстаўнікоў савецкіх і прасавецкіх галоваў аўтакефальных Цэркваў. Адначасна Маскоўскі Патрыярх уводзіць звычай з розных нагодаў выдаваць пасланьні к Галовам і Прадстаўнікам аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў, выкарыстоўваючы да гэтага старую традыцыю ўзаемных сьвяточных прывітаньняў між галовамі аўтакефальных Цэркваў[106]. У сувязі з такою прапагандаю зьяўляюцца прынагодныя артыкулы, у якіх быццам між іншым кідаюцца клічы, што толькі Расейская Царква можа аб'яднаць усе Цэрквы[107].

Ужо перш прынагодна ўспаміналася аб цеpазьмерным нацыяналістычным характары кіраўніцтва Расейскае Праваслаўнае Царквы. Тут неабходна зьвярнуць асобна ўвагу на гэтую азнаку, бо ў сувязі з сучасным курсам імпэрыялістычнае палітыкі ў бальшавіцкім кіраўніцтве русыфікатарская дзейнасьць Царквы відавочна ёсьць адным з пунктаў яе праграмы адобранае бальшавікамі.

Не зважаючы на рознанацыянальны склад вернікаў сучаснае Расейскае Праваслаўнае Царквы, у духоўных сэмінарыях і акадэміях кандыдатаў на сьвятароў вя вучаць іншае мовы, апрача расейскае /ня кажучы аб клясычных мовах і аднэй замежнай/. Больш таго, навет, там, дзе да 1944 г. ўдываліся ў рэлігійным жыцьці іншыя мовы, апрача расейскае, яны паступова або адразу былі выключаныя з ужываньня.

На душпастырскіх курсах для праваслаўнага духавенства на Беларусі, побач агульнага накіраваньня ў сувязі з прасавецкім курсам, была зьвернена спэцыяльная ўвага на расейскую мову[108]. Ад таго часу ня чуваць ні разу, каб дзе на Беларусі ў праваслаўных цэрквах гаварыліся казаньні пабеларуску. У Жыровіцкай Сэмінарыі лекцыі вядуцца парасейску.

На Украіне яшчэ ўкраінская мова ўжываецца ў былых грэкакаталіцкіх парахвіях і выдаецца ў Кіяве рэлігійны часапіс паўкраінску, але былі пароблены некаторыя мерапрыемствы, якія маюць на мэце зьмяніць гэты парадак. Духоўныя сэмінарыі на абшары Украіны /у Кіяве, Луцку і Адэсе/ нічым ня розьняцца ад расейскіх.

Праграмовая і ідэялягічная слабасьць камуністычнае партыі ёсьць адначасна нутранаю слабасьцю бальшавіцкае ўлады, але ў спакойным часе яна можа прыхоўвацца. Аднак у мамэньце, калі ад

дзяржавы запатрабуецца большае напружаньне і калі штыкі, што ахоўваюць савецкіх верхаводаў, спатрэбяцца для іншага прызначэньня, дык савецкая ўлада стае перад абліччам гібелі; перад ёю зарысоўваецца грозная дылема: або гінуць або адмяніць найбольш слабыя пункты свае праграмы што да дамаганьняў людзкое душы, каб адхіліць ад сябе народны гнеў. У гэткім палажэньні знайшліся бальшавікі ў 1941 г. і далі народу магчымасьць здаволіць рэлігійныя імкненьні. Але далі пабальшавіцку - хлусьліва. Дазволілі адчыніць сьвятыні, дазволілі там маліцца, дазволілі паказацца на сьвет сьвятаром, але не дзеля запраўднае рэлігійнае працы, а перадусім дзеля падмацаваньня бальшавіцкае ўлады і для замыльваньня вачэй у вольным сьвеце аб магчымасьці прыязнага сужыцьця між рэлігіяй і бязбожнаю ўладаю.

Даючы мінімальную магчымасьць існаваньня рэлігіі ў СССР, бальшавікі ні ў чым не зьмянілі свае праграмы і свае мэты. Але ўсёроўна гэта ёсьць крок назад у супрацьрэлігійным змаганьні. Бальшавіцкая прапаганда стараецца прадставіць яго, як крок наперад, быццам этап да вышэйшае ступені змаганьня: у Энцыклапэдыі аб гэтым кажацца: "Пабудова сацыялізму ў СССР не зьняла заданьня разгортваньня антырэлігійнае прапаганды. Наадварот, яна паднялa гэтае заданьне на новую вышыню. У ўмовах сацыялізму зьявілася рэальная магчымасьць канчаткова і поўнасьцю ліквідаваць рэлігійныя перажыткі"[109]. Ясна, што гутарка аб "рэальнай магчымасьці" поўнага зьнішчэньня рэлігіі ёсьць самахвальствам савецкае прапаганды, аднак самахвальства гэтае ёсьць найбольш вымоўным выявам запраўднае мэты бальшавіцкае рэлігійнае палітыкі і запраўднага сэнсу ўсіх мерапрыемстваў што да рэлігійных вызнаньняў у СССР. Але адначасна гэткая заява і тактычны крок назад у антырэлігійным змаганьні ёсьць выяўленьнем поўнае апаразы бальшавікоў на гэтым фроньце, бо пасьля доўгагадовага змаганьня ў сучасны мамэнт прынамся некаторыя рэлігійныя згуртаваньні маюць больш рэальныя магчымасьці існаваньня, чымся перад гэтым.

## ТАБЛІЦА РУХУ ГЕРАРХАУ

Расейскае Праваслаўнае Царквы

| Гады | Збольшаньне герархаў: Хіратанізавана | Прынята абнаўленцаў | Рэпатрыявана | Узята зь бязьдзейнасьці | Узята з пакою |
|---|---|---|---|---|---|
| 1911 | | | | | |
| 1928 | | | | | |
| 1938 | | | | | |
| 1942 | 4 | - | - | 11 | - |
| 1943 | 2 | /6/2 | - | -- | 1 |
| 1944 | 18 | /5/1 | - | 2 | 1 |
| 1945 | 12 | -- | - | 4 | - |
| 1946 | 9 | -- | 4 | 3 | 1 |
| 1947 | 7 | -- | 2 | 1 | - |
| 1948 | 5 | - | - | 1 | 3 |
| 1949 | 4 | - | - | - | 1 |
| 1950 | 1 | - | 1 | - | 1 |
| 1951 | - | - | - | - | - |
| 1952 | - | - | 1 | - | - |
| 1953 | 8 | - | - | - | 2 |
| 1954 | 2 | - | 2 | - | 3 |

| Гады | Зьменшаньне: Звольнена на пакой | зь іх памерла | Выслана заграніцу | Арыштавана | Памерла на пасадах | Агульны лік у канцы году |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1911 | | | | | | 139 |
| 1928 | | | | | | 272 |
| 1938 | | | | | | 4 |
| 1942 | - | - | - | - | - | 19 |
| 1943 | 2 | - | 1 | - | 1 | 20 |
| 1944 | - | - | - | -x/ | 1 | 41 |
| 1945 | - | - | - | -- | 3 | 54 |
| 1946 | 2 | - | 1 | -- | 1 | 67 |
| 1947 | 3 | - | - | -- | 1 | 73 |
| 1948 | 2 | /1/ | - | 1 | 1 | 78 |
| 1949 | 7 | - | - | 3 | 1 | 72 |
| 1950 | 1 | - | 1 | 1 | 2 | 70 |
| 1951 | - | /1/ | 1 | 1 | 3 | 65 |
| 1952 | 1 | - | - | - | 5 | 60 |
| 1953 | 4 | /2/ | - | - | 3 | 63 |
| 1954 | 4 | /1/ | 1 | - | - | 65 |

x/ Арыштаваныя ў гэтым г. япіс. ня былі яшчэ герархамі Мас. Патр.

## Бібліяграфічныя зацемкі

Скароты:

Б.С.Э. = Большая Советская Энциклопедия, Второе издание, Москва, 1950.

Ж.М.П. = Журнал Московской Патриархии.

---

1/ Прот. М.Польский. Каноническое положение высшей церковной власти в СССР и заграницей, Троицкий Монастырь, 1948, б.71.

2/ Michel Loriakoff. Pourquoi je ne rentre pas en Russie Soviétique. "Cahiers du Monde Nouveau", Nr.2, Paris, I947,b.83.

3/ La verité sur la religion en U.R.S.S. Moscou, I943; The truth on the faith in Russia, I943; Sergius m. fil. Sauningen om Religionen i Russland, utvigen av Mosk.Patriarkat. Stockholm.

4/ П.В. Гудульянов. Отделение церкви от государства в СССР. Полное собрание декретов, ведомственных распоряжений и определений Верхсуда РСФСР и других советских Социалистических республик: УССР, БССР, Узбекской и Туркменской. Москва, 1926.

5/ F.Fedorov. L'Eglise et le cult en URSS. Paris, I945.

6/ Giuseppe M.Schweigl, S.J. Il nuovo statuto della Chiesa russa e l'art, I24 della Constituzione sovietica. Roma, I948; G. M. Schweigl S.J. Lo statuto ecclesiastico del 3I gennaio I945 e l'art. I24 della Costituzione sovietica. "Il cristianesimo nell'Unione sovietica". Roma, I948, I37-I64.

7/ Михаил Священник. Положение Церкви в Советской России. Іерусалим, 1931, б. 89.

8/ Дакладныя сьпісы ўзнагароджаных падаваліся на бачынах Ж.М.П. ад 1945 да 1948 г.

9/ Прот. М. Польский. Новыя мученики российские. Jordanville, 1948.

10/ Мгр. А.М. Матар'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы. Нямеччына, 1948, б. 22-23.

11/ F. Heyer. Die orthodoxe Kirche in der Ukraine von I9I7 bis I945. Köln-Braunsfeld, I953.

12/ Патриарх Алексей. Слова, речи и послания. Москва, 1948, б. 206.

13/ Там-жа, б. 197-199; Ж.М.П. 1949, Нр. I, б.17.

14/ Ж.М.П., 1945, №2, б.99.

15/ Ж.М.П., 1950, №I, б.2.

16/ "Irénikon", Chevetogne, Tome XXVII,2 trim. I954,bač.I72.

17/ "Вестник Русского Западно-Европейского Патриаршего Экзархата", № 2, Париж, 1947, б.13.

18/ П. Колоницкий. Мораль коммунистическая и мораль рэлигиозная. Москва, 1952, б. 24; "Правда", 11.XI.1945.

19/ R.P.Nicolas A.A., Neuf ans dans les prisons et les camps de travail soviétiques. "La Croix", Paris, 5 Juillet I955.

20/ Ж.М.П., 1954, №9, б. 70.

21/ Запись пастырского собрания 29.IX.1945 г. в присутствии митрополита Евлогия. Машынапіс, б.8.

22/ "Вестник Русского Западно-Европейского Патриаршего Экзархата", Париж, 1947 г., №2, б. 13.

23/ "The Living Church" I8.IV.I954. "Le Probleme religieux en URSS" Deuxieme partie. Paris, octobre I954, Nr.I93I.bač.6.

24/ "Le Probleme religieux en U.R.S.S." Deuxieme partie, Paris, octobre I954, bač.6.

25/ "Комсомольская правда", 9.УII.1953.

26/ К. Маль-віч. З жыцьця савецкае "Праваслаўнае" Царквы. "Божым шляхам". Парыж, 1950, №30-31, б. 10-11; "Божым шляхам" №51, б. 13.

27/ "Irénikon" Chevetogne, I95I, T.XXIV 4 trim. bač.469-47о.

28/ "Литературная газета", 14.X.1954.

29/ Г.П. Федотов. Святый Филипп Митрополит Московский. Парыж, 1928, б.5.

30/ Патриарх Сергей и его духовное наследство. Москва, 1947, б. 312.

31/ "Le probléme religieux en U.R.S.S." Deuxieme partie, Paris, octobre I954, bač. 4.

32/ "Комсомольская правда", 28.XI.1953.

33/ "Звязда", 24.IX.1954, № 227.

34/ "Звязда", 22.IX.1954, № 225.

35/ "Звязда", 31.УIII.1954, № 206.

36/ "Литературная газета", 18.III.1954.

37/ "Комсомольская правда", 18.XII.1953.

38/ "Комсомольская правда", 5.УI.1954.

39/ "Православная Русь". Троицкий Монастырь, 1948, №3, б. 5-9; 1949, № 8-9, б. 15; 1950, № 13, б. 2-4.

40/ Проф. И.М. Андреев. Краткий обзор Истории Русской Церкви от революции до наших дней. Jordanville, 1951, б. 70-72.

41/ Проф. И.М. Андреев. О положении Православной Церкви в Советском Союзе. "Православная Русь", 1951, №1, б. 4.

42/ Опровержение злостной клеветы. "Ж.М.П.", 1948, № 12, б. 25-26.

43/ "Праваславная Русь". 1949, № 8-9, б. 15.

44/ R. Alagiani S.J. Di ritorno dalle prigioni sovietiche. "La Civilta Cattolica".Roma, I954,Vpl.III.Qad 2500, bač.400-403.

45/ "Irénikon". Chevetogne, I954, 3 trim, bač.306.

46/ "Екклезіа", 15.I.1953, б. 30.

47/ Ж.М.П., 1950, № 3, б. 3.

48/ Ж.М.П. 1954, № 1, б. 15.

49/ Wilhelm de Vries S.J. Besuch aus Moskau. "Stimmen der Zeit". Freiburg, Februar I955, Band I55, bač. 390.

50/ F.Fédorov. L'Eglise et le culte en URSS. Paris,I954,b.I3.

51/ "Le probléme religieux en U.R.S.S.", Deuxieme partie. Paris, octobre I954, bač. 26-27.

52/ Б.С.Э. Т. 7, б. 53-54.

53/ Б.С.Э. Т. 20, б. 381.

54/ Б.С.Э. Т.27, б. 590.

55/ Б.С.Э. Т.20, б. 379.

56/ S.Tyszkiewicz. La littérature antireligieuse en URSS. "B.E.I.P.I." Paris, I-I5 Mars I955, Nr. I05, bač. II.

57/ Діяння Собору Греко-Католицькоі Церкви у Львові, Львів, 1946, б. 69.

58/ Б.С.Э. Т.6, б. 85.

59/ R.P.Nicolas A.A., Neuf ans dans les prisons et les camps de travail soviétiques. "La Croix", Paris, 28 Juin I955.

60/ Янка Брыль. У Забалоцьці днее. Мінск, б. 180.

61/ Там-жа, б. 179.

62/ Аркадзь Чарнушэвіч. Суседзі. "Беларусь". Мінск, 1955, №1, б. 13.

63/ А. Галагуцкі. Узмацненне навукова-атэістычнае прапаганды. "Звязда", 14.IX.1954.

64/ Р. Шлопак. Палепшыць падрыхтоўку спэцыялістаў вышэйшай кваліфікацыі. "Звязда", 26.VIII.1954. № 202.

65/ Білянс зьнішчэньня ўсходнякаталіцкае Царквы на Украіне, паданы ў "Libro bianco sulla persecuzione religiosa in Ukraina". Roma, 1953, bač. 65.

66/ Jean Mauclére. La situation de l'Eglise Catholique en Lithuanie. Le Raincy (S. et O.), 1950, bač. 17-18.

67/ А. Колосов. Религия и церковь в СССР. Б.С.Э., Москва, 1948, б. 1789.

68/ Некаторыя дакладнейшыя дадзеныя аб даваенным стане падае: Aristide Brunello. La Chiesa del silenzio. Ostia, 1953, bač. 4-36.

69/ Прот. Д. Боголюбов. О Вожделенном церковном мире. Ж.М.П. № 3. б. 32; Прот. Д. Боголюбов. Братский привет старообрядцам, вопрашающим о Белокриницкой ерархии. Ж.М.П., 1947, №7, б.31; Шлеев. Православное Старообрядчество. Там-жа.

70/ Le probléme religieux en U.R.S.S. Deuxieme partie, Paris, Octobre 1954, bač. 23-24.

71/ Д-р Григор Сааруни. Борьба Армянской Церкви против большевизма. Мюнхэн, 1951.

72/ А. Колосов. Религия и церковь в СССР. Б.С.Э., Москва, 1948, б. 1785.

73/ С.М. Шварц. Антисемитизм в Советском Союзе. Нью Йорк, 1952, б. 263.

74/ Ж.М.П., 1952, № 6, б.9.

75/ Salomon M. Schwarz, The Jews in the Soviet Union. Syracuse University Presse, 1951.

76/ "Soviet War News", London, 16.V.1942.

77/ La Documentation Française, Notes et Etudes Documentaires Nr.1812. L'Islam en URSS aprés 1945. Paris, 1953.

78/ В.Г. Джамбой, Советский Союз и Ислам. "Вестник Института по изучению истории и культури СССР". № 3/10/, б. 42.

79/ Б.С.Э. Т.6. б. 230.

80/ Проф. Н.Н. Поппе. Положение буддийской церкви в СССР. "Вестник Института по изучению истории и культури СССР". №5/12/, б. 35.

81/ La Documentation Française. Le Probléme religieux en

U.R.S.S. Nr. 1931, Deuxieme partie. "Donnee et Documents sur l'organisation actuelle des differentes Eglises et Associations religieuses. Paris, 1954.

82/ "Правда", 11.XI.1954.

83/ КПСС в резолюциях и решениях... Часть I. Москва, 1954, б. 744.

84/ "Коммунист". Москва, 1954, № 13.

85/ "Вопросы философии". 1954, №5, б. 20-27.

86/ Ф.Н. Олещук. Религиозные пережитки и пути их преодоления. "Вопросы философии". 1954, №6, б. 76-88 і інш.

87/ В.И. Ленин. Сочинения. Т.15, б. 376.

88/ Frédéric Heiler. La Priere. Paris, 1931, bač. II.

89/ P.Pavjolkin, Der religiöse Aberglauben und seine Schädlichkeit. Berlin, 1954.

90/ "Комсомольская правда", 28.XI.1953.

91/ А. Колосов. Религия и церковь в СССР. Б.С.Э. Москва, 1948, б. 1782-1784.

92/ Г.П. Федотов. Святой Филипп Митрополит Московский. Париж, 1928, б. 17.

93/ Прот. А. Шмеман. Исторический путь Православия. Нью Йорк, 1954, б. 351.

94/ Б.С.Э. Т.27, б. 590.

95/ Gary Mac Eoin. Der Kampf des Kommunismus gegen die Religion. Aschaffenburg, 1952, bač. 26.

96/ Деяния совещания Глав и Представителей автокефальных Православных Церквей в связи с празднованием 500-летия автокефалии Русской Православной Церкви. Москва, 1949, Т.I, б. 274; Т. II, б. 426-429.

97/ Ж.М.П., 1949, № 10, б. 13.

98/ Проф. А.М. Панкратова. История СССР. Часть Первая, Изд. 4-ое, Москва, 1945, б. 126.

99/ Ж.М.П., 1948, №8, б. 16 і 18.

100/ Там-жа, б. 43.

101/ Ж.М.П. 1948, №2, б. 7.

102/ Проф. С. Троицкий. О границах распространения права власти Константинопольской Патриархии на "диаспору". Ж.М.П.

1947, № 11, б. 34-45.

103/ Ж.М.П., 1949, № 12, б. 29-54; Ж.М.П., 1950, №3, б. 45-57.

104/ А. Ведерников. К вопросу о предсоборном совещании. Ж.М.П. 1953, № 8, б. 47-53.

105/ Ж.М.П. 1953, № 5, б. 8.

106/ Ж.М.П., 1952, № I, б. 8; 1953, № 1, б. 7; 1953, № 4, б. 19 і інш.

107/ И. Потапов. Да вси едино будут. Ж.М.П., 1954, № 10, б. 36-42.

108/ Ж.М.П., 1947, № 9, б. 40.

109/ Б.С.Э. Т.2, б. 512.

--------------------